BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 3(27) Сакавік 1996 March Год выд. 4

Жыве Беларусь!







25-га САКАВІКА

1918 — 1996

## ПРЫСЯГА

*Натальля Арсеньнева*

Беларусь!
Наша маці-краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня згінем,
пакуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цябе, як асілкі,
нашы сэрцы палаюць агнём,
дружна, мужна
за лёс Твой расьцьвілы
супраць Чорнае моцы мы йдзём.
Не шкада нам жыцьця маладога,
не шкада нам гарачай крыві,
абы толькі праменнай дарогай
крочыў горда народ наш жывы!
Прысягаем
Табе мы сягоньня,
што пакуль хоць адзін з нас жыве, —
нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
мы ня зганьбім,
мы ўславім яе!

*Гістарычны Акт 25-га Сакавіка заўсёды будзе правадною, яснай зоркай у памяці Беларускага народу... 25-га Сакавіка 1918 г. у 3-ай Устаўной грамаце Рады БНР — Беларусь абвяшчаецца вольнай і незалежнай дзяржавай...*





**Спадар Віталь КАЖАН** — заслужаны, доўгагадовы скарбнік Рады БНР, палітычны і грамадзкі дзеяч, незалежнік, гарачы беларускі патрыёт і шыракавядомы чалавек сярод беларускае эміграцыі.

**Дарагі Віталь!** Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае беларускае газэты.

## ЦІ ПРАЧНЕЦЦА «АБАЛВАНЕНАЯ » БЕЛАРУСЬ?..

Тое, што творыцца апошнім часам у палітычным, эканамічным і культурным жыцьці Беларусі, выклікае, далікатна сказаўшы, недаўменьне. Ну гляньце... Група рускіх адстаўных афіцэраў ды іншых па-камуністычных няўдачнікаў-кар'ерыстаў, сабраўшыся вакол асобы А. Лукашэнкі, па волі нейкага недаразуменьня і беларускага рабскага рукалізаньня нахальна, праломным способам дабралася да высокай ўлады ў Менску і цяпер ужо беспардонным способам і яўна вядзе Беларусь у Маскоўскую залежнасьць.

Давёўшы за паўтара года свае ўлады эканоміку Беларусі да амаль поўнага краху, гэтая каля-прэзыдэнцкая анты-беларуская групіроўка цяпер пасьпешна шукае выхаду з цяжкое сытуацыі ў поўным аб'яднаньні з Расеяй...

Апошняя паездка Лукашэнкі ў Маскву паказвае, што ён сур'ёзна і надоўга задумаў злучыць Беларусь з Расеяй і дзейнічае ён у гэтым напрамку з агромным напорам. У паняцьці Лукашэнкі «незалежнасьць — справа адносная і чыста філасофская» і праймацца ёю няма вялікае патрэбы. Божа! За што Ты караеш Беларусь? Трэба ведаць, што ўмела дырагаваная кампанія барацьбы з карупцыяй, на хвалі якой Лукашэнка заняў пасаду прэзыдэнта, сёньня служыць іншым інтарэсам і сур'ёзна падрывае эканамічныя ўстоі дзяржаўнасьці. За час панаваньня Лукашэнкі ў Беларусі паўстала новая форма ўласнасьці — прэзыдэнцкая, якая нікім не кантралюецца. Гэтая прэзыдэнцкая ўласнасьць кантралюе вялізарныя даходы і капіталы... І хто на гэтым багацее?— толькі невялікая група з акружэньня прэзыдэнта...

А што на гэта парлямэнт?.. А ў парлямэнце заселі, як кажуць польскія і ўкраінскія аглядальнікі, яшчэ зусім не абліняўшыя трусы, для якіх парлямэнт, гэта крыху іншая, але як даўней партыйная работа.

А прэзыдэнт сказаўшы сабе, што «дзяржава — гэта я» ганяе і абалваньвае ўсіх і ўся... Пазакрываў газэты... і рэдактары ўтуліўшы галовы, як авечкі, пайшлі жабраваць і шукаць спагады ў суседзяў... Сказаў не прызнаваць Кастытуцыйны суд — ніхто не прызнае... Пачаў цягнуць Беларусь у абдымкі Масквы — усе маўчаць... Прэзыдэнт і яго анты-беларуская каманда стараюцца блакіраваць давыбары ў парлямэнт, бо гэта можа пашкодзіць "создать" саюз двух славянскіх дзяржаў — цішыня... Павыстаўлялі ўсюды, нават у школах, сталінска-бальшавіцкую сымболіку — ах, няхай... Такога хамства, якое залівае сёньня Беларусь, не дашукацца ў іншых краінах сьвету!..

І ўсё-ж, браткі, ці гэтая цішыня і цярплівасьць не варожыць вялікае і грознае буры?.. Ці не цішыня гэта перад бураю?..

*Б.*

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Паважаныя Суродзічы!

Дазвольце мне павіншаваць Вас ад імя Рады БНР з Днём 25-га Сакавіка — сымвалам нашай вернасьці ідэалам незалежнасьці ды стойкасьці ў абароне дэмакратыі і аснаўных правоў чалавека акрэсьленых у ўстаноўчых граматах 25 Сакавіка 1918 г. Гэта была канстытуцыя, якой не пасаромеўся-б ніякі народ. Мне трапіла ў рукі копія маёй прамовы на 6-ай Сустрэчы Беларусаў паўночнай Амэрыкі ў 1962 годзе. Гэта дае мне магчымасьць параўнаць палітычнае палажэньне ў Беларусі тады і цяпер.

Тады ў нас быў выразны вораг — расейскі камуна-фашызм, які пагражаў ня толькі нам, але ўсяму цывілізованаму сьвету. Гэтая сыстэма брутальна таптала аснаўныя правы чалавека паставіўшы сабе за мэту задушыць усе праявы нашага нацыянальнага жыцьця, зьліквідаваць беларускую мову, ды выгадаваць янычараў, якія будуць ненавідзець усе праявы беларускага нацыянальнага жыцьця. Тады вораг быў выразны і мы ня мелі ніякіх сумніваў у змаганьні зь ім.

Што-ж зьмянілася цяпер пасьля абвешчаньня новае незалежнасьці? Хіба толькі тое, што няма больш Гулагаў... аднак усе янычары засталіся пры ўладзе, хоць было на момант прыціхлі. Праўда, прынялі новую, гістарычную беларускую сымволіку і беларускую мову аб'явілі дзяржаўнай... Прынялі новую Канстытуцыю...

Далейшыя падзеі на Беларусі, аднак, хутка выклікалі засьцярогі. Вярхоўная Рада БССР надалей функцыянавала, а 1994 г. выбралі прэзыдэнта, янычара, гадунца Масквы, які хутка паказаў сваё праўдзівае аблічча... Пачалася цэнзура прэсы, сродкі масавай інфармацыі былі падпарадкаваныя ўраду, ліквідацыя нацыянальнай сымволікі... Ніводзін народ былога Саюзу гэтага не зрабіў... Прэзыдэнт з яго рускімі дарадчыкамі паставіў сабе за мэту зьліквідаваць незалежнасьць нашага народу...

Што-ж павінна рабіць беларускае Замежжа? Безадкладна мы павінны згуртаваць усе свае сілы на абарону дэмакратыі... на абарону аснаўных правоў чалавека, на свабоду слова, палітычнай арыентацыі і ў першую чаргу роднае мовы. Мы мусім абараняць права на захаваньне нашых культурных традыцыяў і выбару эканамічнай сыстэмы. Мы мусім прапагаваць прыватызыцыю зямлі і прамысловасьці. Беларусь ня мае ворагаў, хіба за выняткам маскоўскага імпэрыялізму... Заходняя Эўропа пахаваўшы свой імпэрыялізм, сёньня жыве ў згодзе ды вялікім дабрабыце... Параўнайце рэакцыю Масквы на правы Чачні... Брутальнае зьнішчэньне, многа забітых... Я спадзяюся, што гэта не станецца ў Беларусі. Я веру, што Беларускі народ знойдзе міралюбны шлях, каб асягнуць сваю мэту. Але трэба памятаць засьцярогі Васіля Быкава, нашага сучаснага прарока, «што калі дзяржава паўстае без праліву крыві, дык можа быць небясьпека страты гэтай свабоды...»

Вось-жа з нагоды нашага нацыянальнага сьвята, заклікаю ўсіх гуртавацца вакол Акту 25-га Сакавіка. Прапаную ўтварыць Блёк БНР, які-б згуртаваў усе нашы палітычныя і грамадзкія плыні, як у Замежжы, так і на Бацькаўшчыне ў адну магутную плынь, дзеля ажыцьцяўленьня ідэалаў 25-га Сакавіка. Нам трэба пазбавіцца асабістых ды груповых амбіцыяў, а моцна згуртавацца Ўсім у працы для дабра нашае шматпакутнае Бацькаўшчыны-Беларусі

*Барыс Рагуля*

# Расію прынялі ў Савет Эўропы, а Беларусі сказалі пачакаць за дзьвярыма

***Прыняцьце Расіі ў Савет Эўропы (СЕ) стала адной з самых важных падзей міжнароднага жыцьця*** "Свабода"

Масква яшчэ ў 1992 г. падала заяўку на ўступленне ў гэту ўплывовую арганізацыю, праз якую ў будучым ёсць магчымасць патрапіць ў элітарны Еўрапейскі Саюз.

За апошня пяць гадоў членамі СЕ сталі 15 дзяржаваў, у тым ліку краіны Балтыі, Малдова і Украіна. Расію таксама маглі прыняць яшчэ летась, калі б яна не вяла вайну ў Чачні. І хаця бойня там па-ранейшаму працягваецца, парламенцкая асамблея Савета Еўропы ўсё ж палічыла, што будзе лепш прыняць Маскву, чым пакідаць яе за бортам. Як напісалі "Известия", Расія патрапіла ў своеасаблівы "выпраўленчы дом", дзе яе будуць вучыць дэмакратычным "манерам" і цывілізаваным правілам паводзінаў. Генеральны сакратар СЕ Даніель Таршыс у сваім артыкуле ў газеце *European* адзначае: "Уступленне Расіі ў Савет Еўропы не прынясе шкоды арганізацыі. Наадварот, гэта шанец умацаваць дэмакратычныя каштоўнасці ў гэтай краіне, дзе яны яшчэ знаходзяцца пад пагрозай".

Беларусь стаіць у чарзе на прыём у Савет Еўропы ўжо амаль тры гады – з сакавіка 1993 г. І хаця адна з галоўных умоваў (абранне новага парламенту) нарэшце выканана, нявырашанай застаецца не менш важная праблема – свабода друку, дакладней – яе адсутнасць у нашай краіне. Так лічаць эксперты ЕС. Для такіх высноваў еўрапейцам дастатковa хаця б таго факта, што ў РБ забараняюць друкаваць незалежныя газеты і яны вымушаныя выходзіць за мяжой. Калі гэтыя ганенні будуць працягвацца, Беларусь наўрад ці прымуць у ЕС і ў 1996 годзе, на што вельмі разлічвае афіцыйны Мінск. РБ – гэта не РФ, нас хутчэй за ўсё пажадаюць выхоўваць па-за межамі "еўрапейскага дома".

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

С. ШАРЭЦКІ:

# «Парлямэнт настроены працаваць на суверэнітэт Беларусі»



«Палітыка неабходная грамадству, але гэта павінна быць не «брудная» палітыка, за якой стаяць людзі з нячыстай душой, а тая, што робіцца людзьмі падрыхтаванымі, якія ўсведамляюць адказнасць перад народам», — заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета краіны Сямён Шарэцкі, выступаючы 20 студзеня на другім Нацыянальным кангрэсе маладых палітыкаў і дзелавых людзей «Беларусь на парозе двух стагоддзяў і двух тысячагоддзяў». Ён расказаў аб сваім бачанні дзейнасці парламента рэспублікі, падкрэсліўшы, што яго галоўная задача — вызначыць унутраную і знешнюю палітыку краіны, стварыць прававы калідор для яе рэалізацыі. На думку Сямёна Шарэцкага, за той кароткі час, што дэпутаты працуюць, зроблена нямала: выбраны старшыні ўсіх 15 пастаянных камісій, актыўна фарміруецца іх састаў. Прайшло і першае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Вырашана, што асноўная работа па заканатворчасці пераносіцца ў камісіі. Напрацаваныя матэрыялы будуць узгадняцца з фракцыямі і толькі потым выносіцца на сесіі.

«А першае, што нам важна прыняць, — гэта бюджэт на бягучы год, — падкрэсліў спікер парламента. — Прыярытэт у выдзяленні сродкаў атрымаюць сацыяльныя праграмы. Мы таксама маем намер падтрымаць ахову здароўя, адукацыю, навуку і культуру. І пастараемся зрабіць усё, што залежыць ад заканадаўцаў, каб дзяржава набыла сваё нацыянальнае аблічча. Упэўнены, што пры цяперашнім Вярхоўным Савеце ніякага аб'яднання Беларусі з якой-небудзь краінай на дзяржаўным узроўні не адбудзецца. Мы будзем умацоўваць і развіваць суверэнітэт».

Потым Сямён Шарэцкі адказаў на пытанні з залы, і ў першую чаргу аб тым, якая ўвага будзе ўдзелена моладзі. «Самая пільная, — запэўніў ён. — У Вярхоўным Савеце фарміруецца падкамісія па праблемах моладзі. Яе абавязкова ўзначаліць хто-небудзь з маладых дэпутатаў. Акрамя таго, у бюджэце мы пастараемся выдзеліць сродкі на маладзёжныя праграмы і зафіксаваць гэта асобным радком».

На пытанне аб тым, як складваюцца яго адносіны з Прэзідэнтам краіны, Сямён Шарэцкі адзначыў, што меў ужо некалькі сустрэч з Аляксандрам Лукашэнкам. Усе яны праходзілі ў атмасферы ўзаемаразумення і добразычлівасці. Ён асабліва падкрэсліў, што ў іх няма рознагалоссяў па ключавых праблемах жыцця краіны, і выказаў надзею, што канструктыўнае супрацоўніцтва выканаўчай і заканадаўчай улад прынясе бачныя вынікі ўжо ў бліжэйшай будучыні.

**Валянціна МЕНШЫКАВА,**
**Кацярына ШЫМАНСКАЯ, БЕЛТА.**

"ЗВЯЗДА"



# СЯМЁН ШАРЭЦКІ

## *СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ*

Шарэцкі С.Г. нарадзіўся 23 верасня 1936 года ў вёсцы Лаўрышава Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Беларус.

Шарэцкі С.Г. — аграном па адукацыі, закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Яшчэ калі быў студэнтам, у 1959 годзе ён выбіраецца спачатку намеснікам, а затым старшынёй калгаса Навагрудскага раёна. Пад яго кіраўніцтвам калектыўная гаспадарка «Звязда» становіцца адной з перадавых у Гродзенскай вобласці.

Закончыўшы ў 1970 годзе Мінскую вышэйшую партыйную школу, Шарэцкі С.Г. прадоўжыў работу ў ёй у якасці старшага выкладчыка. Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі з 1976 па 1984 год узначальваў кафедру эканомікі і арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці Мінскай вышэйшай партыйнай школы.

У 1984 годзе Шарэцкі С.Г. вяртаецца да практычнай работы ў сельскай гаспадарцы і выбіраецца старшынёй праўлення калгаса «Чырвоны сцяг» Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Адначасова працягвае навуковую работу і абараняе доктарскую дысертацыю.

Працаваў саветнікам Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Шарэцкі С.Г. — доктар эканамічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Аграрнай акадэміі Рэспублікі Беларусь, член-карэспандэнт Расійскай сельскагаспадарчай акадэміі, акадэмік Украінскай аграрнай акадэміі, акадэмік-сакратар Беларускага аддзялення Міжнароднай акадэміі інфармацыйных працэсаў і тэхналогій.

Шарэцкі С.Г. узнагароджаны ордэнам Леніна і медалём «За доблесную працу».

Шарэцкі С.Г. — адзін з арганізатараў Аграрнай партыі Беларусі, яе старшыня з 1992 года. 29 мая 1995 года выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Навагрудскай сельскай выбарчай акругі № 138.

10 студзеня 1996 года на першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Шарэцкі С.Г. выбраны Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Жанаты, мае двух сыноў. Пражывае ў Мінску.

***Ветліва ПРОСІМ падтрымаць Выдавецкі ФОНД нашае газэты...***

# Belarus president finds respect hard to get

THE GLOBE AND MAIL
Saturday, January 27, 1996

**RESISTANCE** / *Critics play cat-and-mouse game with collective farmer who turned to politics.*

BY GEOFFREY YORK
Moscow Bureau
Minsk

IN the press room, one floor below the Supreme Soviet of Belarus, the local journalists are laughing uproariously as they watch their President on the television monitors.

That reaction to Alexander Lukashenko's speech was probably not exactly what he wanted.

The President of this former Soviet republic of 10 million people has done everything imaginable to frighten and intimidate the Belarussian media. He has fired editors, prohibited television coverage of opposition leaders, banned independent newspapers from the state printing presses, frozen their bank accounts and barred them from the state-owned stores.

The journalists have responded with a mixture of amusement and defiance. Refusing to submit to Mr. Lukashenko's will, they have found imaginative ways to get around his orders.

It has become a cat-and-mouse game.

When the President decreed that the independent newspapers could not publish on the state-owned printing plants in Minsk, they found presses outside the capital.

When he banned them from every printing plant in the country, they found presses in neighbouring Lithuania.

Now the newspapers are trucked from Lithuania into Minsk and distributed by networks of street vendors and private kiosks. Their survival is tenuous, imperilled by long delays at the Belarussian customs posts and the hazards of the 200-kilometre drive in winter weather. But somehow they continue to publish, infuriating the President and discomforting his top officials.

"The President is giving us free publicity," chuckled Alexander Feduta, a columnist at one of the independent papers.

"We are Gorbachev's children," he said, referring to former Soviet leader Mikhail Gorbachev, who opened the doors to press freedom. "We can laugh at the authorities — and not just in our kitchens."

Certainly there is no shortage of comedy material in this stagnant country on the fringe of Eastern Europe, sometimes described as a Soviet theme park because of the Communist monuments in every town square.

The President's efforts to dominate all aspects of Belarussian society have triggered constant squabbles between Mr. Lukashenko and the Supreme Soviet (the national parliament), even on the most trivial of subjects.

When the new parliament held its first session this month, Mr. Lukashenko sat vigilantly at a desk beside the chairman's podium and interjected at every opportunity. "You have no right to cancel any of the President's decrees," he berated the deputies.

When they urged him to speak in an open session instead of the closed session he had demanded, he exploded in a bizarre tirade.

"I am not some little boy," he shouted at the parliamentarians as journalists chortled in the press room. "I am the President of the republic of Belarus. I will not speak to the Supreme Soviet. I will speak when I consider it necessary to speak."

Mr. Lukashenko, a maverick populist and former collective-farm boss who was elevated to the president's office after an unexpected election victory in 1994, often seems like a character from the old days of the Soviet Union.

Resentful of anyone who disobeys his commands, he has tried to impose direct rule on Belarus. He has crushed labour unions, ignored the decisions of the highest court, stalled on economic reforms, refused to finance elections and sent armed soldiers into parliament to break up a hunger strike by protesting deputies.

But the intimidation tactics have failed. In another act of defiance, voters went to the polls in large numbers in November, electing a new parliament despite Mr. Lukashenko's efforts to discourage them from voting.

Mr. Lukashenko, who had ruled Belarus single-handedly after dissolving the previous parliament last spring, had persuaded the courts that the election should be considered invalid unless 50 per cent of voters went to the polls. On voting day, he spoiled his ballot and sneered at the calibre of candidates. But to his surprise, the minimum threshold was achieved, and a new parliament was formed.

In the post-Soviet era, Mr. Lukashenko gets no respect from the media or the opposition leaders. Pluralism has arrived and he lacks the old police-state mechanisms to crack down on dissent. The result, in Belarus, is not a totalitarian state, but a rudderless country, fractured by constant struggles between the President and his enemies.

**Belarussian President Alexander Lukashenko is quickly developing a reputation as unpredictable.**

Because this country is such an obscure corner of the former Soviet Union, its 41-year-old President is little known to the West. Yet Belarus occupies a strategic location as the major corridor between Moscow and Central Europe and it still possesses a lethal arsenal of Soviet-era nuclear weapons, not yet completely dismantled.

Mr. Lukashenko is quickly developing a reputation as an unpredictable eccentric. He has praised Adolf Hitler for the "positive aspects" of his regime. He defended his military when it shot down a U.S. balloon and killed two balloonists in an incident reminiscent of the Cold War. He has threatened to stop dismantling his nuclear arsenal if the Western military alliance tries to expand into Eastern Europe.

His erratic behaviour is compounded by his paranoia. He has described himself as a "hunted animal" in a world filled with enemies. He drives an armoured Mercedes and surrounds himself with an army of police officers and bodyguards — — even when attending an Orthodox Christmas service at a local church.

"Either you're for him or you're against him, and if you're against him you must be destroyed," said a Western diplomat in Minsk. "He's not a graceful loser."

Mr. Lukashenko's combativeness has a tendency to create even more enemies. "For every person he bullies, it stiffens the resolve of two others," the diplomat said.

Mr. Feduta, the newspaper columnist, worked as a press secretary to Mr. Lukashenko in the months after his 1994 election win. He eventually quit his job in protest against the President's attempts to censor the media.

"I feel very sorry for him," Mr. Feduta said. "He is a very lonely man. He's afraid of everything and everybody."

In the recent election campaign, Mr. Lukashenko prevented opposition leaders from gaining access to local television channels.




He is trying to create "a monopoly on words," Mr. Feduta said. "He has become intolerant of other points of view. He believes that the only way to preserve power is to make sure that people get only one point of view — his view. He would be fully satisfied with the position of Pope, the representative of God on earth, whose word is final."

Mr. Lukashenko's dictatorial tendencies are a product of his political inexperience and his career as a Soviet farm chairman, analysts say. His bitter feuding with parliament is just one example of his desire to control everything. In one memorable incident, he commandeered a television station to announce that he was investigating a broken heating-pipe.

"He's basically an amateur," said a Western economist in Minsk. "He wants to take responsibility for everything, right down to the finest detail."

Meanwhile, the independent newspapers are continuing to publish, despite the harassment from the President. One of the newspapers, Narodnaya Volya, expects to lose almost $200,000 this year because of the transportation difficulties from Lithuania.

When the newspaper was created in the summer, it published daily and had hundreds of distributors. Today, because of the official restrictions, it has only 50 distributors and can publish only once a week because it takes two days for the truck to arrive from Lithuania.

"I have headaches day and night," said the newspaper's editor, Joseph Seredich, who launched the paper after Mr. Lukashenko fired him from his job as editor of a state-owned paper.

"I don't have a full staff, and we have major financial difficulties," Mr. Seredich said. "But as long as we have one journalist and one reader, we will keep publishing."




Край мой любы, жытні і курганны,
На няласцы нелюдзяў чужых,
І калі мне кажуць: партызаны,
Жудасна мне робіцца ад іх.

*Ларыса ГЕНІЮШ*

## ПАРТЫЗАНЫ

Як запомню войны і пажары —
Ўсё пабоішчам мая зямля,
Колькі раз па ёй, бы лівень з хмараў,
Кроў чужая і свая плыла.
Продак мой, спыняючы нашэсьце,
Кідаўся на ворага зь мячом,
Толькі-б не цярпелі сем'і, дзеці,
За плячыма захаваўся дом!
І стаялі насьмерць, ўсенародна
Супраць недругаў суровых і ліхіх.
І не пакідалі безбаронных,
Ворагаў наклікаўшы на іх.
..............................................
Партызаны-ж, тыя партызаны,
Што ім сёлы, боль і енк людзкі,
Толькі-б мосьцік недзе быў ўзарваны,
Ды зьляцелі з рэйкаў цягнікі.
Што для іх адкрытыя магілы,
Дзе за рэйкі кідалі дзяцей,
Не, дзяцей яны не баранілі,
Солтыса забіць куды прасьцей.
Солтыса, які акручваў Немца,
Каб ад згубы ратаваць сяло,
Бо куды-ж было народу дзецца,
Помачы адкуль чакаць было?
Нашы пушчы, роднае багацьце,
Непралазнасьць зарасьляў, балот:
Партызанам ёсьць куды схавацца,
А куды-ж схаваецца народ?
А куды схаваюцца мільёны
Ў кінутай нашэсьцю старане,
Дзеці ў гэтых сёлах безбаронных,
Калі ўсе мужчыны на вайне?
..............................................
Пішуць вершы, повесьці, раманы,
Усё-ж няма там ні слаўца нідзе,
Каб грудзмі стаялі партызаны
За расстрэленых, за паленых людзей!
То ня подзьвіг баявы і сьмелы,
Толькі брэх сабачы і пусты
Наклікаць на сёлы сьмерць умелі,
А самыя шпарылі ў кусты!
Выстаўлялі немаўлят пад стрэлы
І слабых жанчын пад кулямёт,
Ім за рэйкі дык душа балела,
Не балела толькі за народ.
Жадь народны, што ня знае меры,
Дым з абпаленых, загубленых касьцей,
Партызаны горшыя, як зьверы,
Зьвер так ворагу ня кідае дзяцей,
А пакуль ёсьць кіпцюры і зубы,
Засланяе ён малых сабой,
Не бяжыць ў сасоньнік ад загубы,
А ў няроўны кідаецца бой!
Нават тая птушачка малая
Люта скача злыдням да вачэй.
Ў горы птушанят не пакідае,
Лепей зьгіне ля сваіх дзяцей.
..............................................
Хваляцца, каго яны забілі,
Ці прз іх загінула дарма.
А каго яны абаранілі?
Гэткіх на уліку ў іх няма.
..............................................
Йшлі інструкцыі ў адным напрамку,
Палымнела Беларусь, адна
А чаму-ж не падымалі партызанкі
На Каўказе ці каля Арла?
..............................................
Аднаго забілі часам гада
І, забіўшы, зайцамі ўцяклі,
А за гада сотні леглі радам
Безбаронных жыхароў зямлі.
І няўцям да сёньня той Мазанік,
Як лілася ў Менску наша кроў, —
Не, не партызан, не партызанак,
А ў мучэньнях выжыўшых сыноў.
Калі судзіш ворага за згубу,
Першым чынам засланяй сваіх.
Эх, Мазанік, за аднаго Кубэ
Колькі нашых брацьцяў нямывых...
Ці яны ўначы табе ня сьняцца,
Тысячаў замучаных ня жаль?
Што-ж табе, Мазанік, нашы брацьця,
Для цябе галоўнае — мэдаль...

# Небяспечная мова?

СВАБОДА 23 студзеня 1996 г., № 4

***Колькі ж чалавек у заканадаўчым органе Беларусі гавораць па-беларуску?***

Не хочацца лішні раз нагадваць, што ў любой іншай дзяржаве пытанне, вынесенае ў падзаголовак, гучыць па меншай меры абсурдна. Аднак у нас дзяржава спецыфічная, і дэпутаты ў ёй спецыфічныя (асабліва пасля рэферэндуму). Большасць з іх беларускую мову ведае "ў межах, неабходных для ўспрымання" (інакш кажучы, як выхаваны сабачка – усё разумее, а сказаць нічога не можа).

Рыба, як кажуць, гніе з галавы, таму паводзіны старшыні Вярхоўнага Савета ў моўным пытанні адыграюць значную ролю. Сямен Шарэцкі заняў тут, скажам асцярожна, вельмі своеасаблівую пазіцыю. Яго заява пра тое, што пытанні бюджэту ён будзе весці на рускай мове, а праблемы культуры – па-беларуску, выклікае, як мінімум, іранічную заўвагу: а што, калі будуць разглядацца праблемы культуры ў бюджэце?

З аднаго боку, у сваіх інтэрв'ю Шарэцкі захапляецца "Адвечным шляхам" Абдзіраловіча і гаворыць аб неабходнасці нацыянальнай годнасці і культуры, а з іншага – ніхто ад яго пакуль не чуў ані слова па-беларуску: на беларускамоўныя пытанні журналістаў ён адказвае па-руску. Спасылка Шарэцкага на тое, што ён будзе весці сесію па-руску, бо так гаворыць большасць дэпутатаў, выглядае альбо бездапаможна, альбо цынічна. Калі паміраe чалавек, можна альбо дапамагаць яму выжыць, альбо нічога не рабіць, паўтараючы "на ўсё воля Бога". Ці, як у нашым выпадку, – "на ўсё воля большасці".

Нават дэпутаты, якія без праблемаў валодаюць беларускай мовай, здаецца, лічаць непатрэбным у пэўных сітуацыях дэманстраваць гэтую сваю якасць. Аляксандр Дабравольскі і Анатоль Лябедзька, акрамя аднаго-двух разоў, выступаюць на рускай мове. Як растлумачыў мне Дабравольскі, яны баяцца, што рэпліка на беларускай мове можа пашкодзіць станоўчаму праходжанню таго ці іншага важнага пытання.

Зрэшты, менш за ўсё хацелася б крытыкаваць "Грамадзянскае дзеянне" – дэпутаты гэтай фракцыі на чале з Багданкевічам пераважна разумеюць важнасць беларускай мовы для самастойнага культурна-палітычнага развіцця нашай краіны. І, наколькі я ведаю, большасць з іх хацела б ёю валодаць, – таму будзем спадзявацца на лепшае. Дарэчы, Генадзь Карпенка першыя свае паведамленні ў якасці намесніка старшыні Вярхоўнага Савета зрабіў па-беларуску.

У Сацыял-дэмакратычнай фракцыі "Беларусь" найбольш паслядоўнымі прыхільнікамі беларушчыны з'яўляюцца два дэпутаты ад Грамады – Пётр Краўчанка і Павел Знавец. Яшчэ на першай прэс-канферэнцыі фракцыі Краўчанка заявіў, што сацыял-дэмакраты будуць адстойваць у парламенце адраджэнскія ідэі, а астатнія дружна заківалі галовамі. На гэтым іх "адраджэнцкая" функцыя і абмяжоўваецца: лідэр фракцыі Лявон Сечка яшчэ імкнецца часам гаварыць па-беларуску, але іншыя дэпутаты ад СДС у "порочащих" сувязях з беларускай мовай заўважаныя не былі.

Аграры, як гэта ні дзіўна, маюць у сваіх шэрагах аднаго дэпутата, які нармальна гаворыць па-беларуску. Астатнія ж прадстаўнікі гэтай фракцыі, відавочна, зрабілі ўсё магчымае, каб ніхто не называў іх ганебным словам "калхознік": гавораць яны ўжо нават не "трасянкай", а амаль чыстай рускай мовай. Засталіся толькі "аграрныя" "г", "ч", і "р" у вымаўленні – а гэта, як паказвае вопыт Лукашэнкі, выправіць нялёгка. Хаця, калі патрэніравацца альбо пахадзіць да лагапеда, апошнія сведчанні свайго беларускага паходжання ўсё-такі ўдасца знішчыць.

Сярод камуністаў знайсці дэпутата з такой унікальнай для гэтых людзей якасцю, як валоданне беларускай мовай, пакуль не ўдалося. Можа, яны і ёсць, але не "свецяцца", – магчыма, баяцца сваіх таварышаў па партыі. Бо для сучасных нашых камуністаў марай з'яўляюцца словы Маякоўскага пра жыццё "без Россий и Латвий", пра што напісаў нядаўна ў прэсе іхні дэпутат Валеры Шчукін. Ідэя наконт "без Россий" заслугоўвае, канешне, самай сур'ёзнай увагі – цікава толькі, на якой мове ў такім выпадку размаўлялі б беларускія камуністы? Няўжо па-латышску?

Не хочацца лішні раз чытаць натацыі на тэмы культуры і нацыянальнай годнасці. Тым больш што цяпер гэтыя паняцці не модныя, замест іх пануе хамства і дэнацыяналізацыя. Цяпер модна блюзнерскае крыўлянне (тыпу: "ня-ма-а рэформаў"), якім прыкрываецца комплекс уласнай інтэлектуальнай непаўнацэннасці. Хочацца, аднак, спадзявацца, што ў большасці дэпутатаў "з комплексамі" ўсё ў парадку, і яны зразумеюць, што глыток уласнай культуры яшчэ нікому не пашкодзіў. Будзем спадзявацца і на тое, што ім захочацца хоць чым-небудзь адрозніваца ад людзей, якія ненавідзяць усё беларускае...

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

**ПАДЗЯКА**

Зь вялікаю прыемнасьцю паведамляем, што гэты № нашае газеты выдаецца на 12 бачынаў дзякуючы патрыятычнай дапамозе Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру ў Строгсвілл, Огіо. Дзякуем Вам добрыя людзі!!!

# "ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ, ШТО НАШЫ ЛЮДЗІ ПАЧАЛІ ДУМАЦЬ..."

Ніл Гілевіч — у сяброў літаб'яднаньня "ЛІТАРАТАР"

(Заканчэньне. Пачатак у папярэднім № газэты)

**— Але ж для таго, каб "апрацаваць душу народа", патрэбна ўлада. А яна ж, вядома, у адносная ступені, была ўжо ў дэмакратаў. Ці не вінаватыя яны самі ў тым, што страцілі нават і тое невялікае, што ў іх было — страцілі дзякуючы ўсё той жа сваёй мяккасці і наіўнасці?**

— Я разумею, што і каго вы маеце на ўвазе. Цяпер многія абвінавачваюць Шушкевіча ў тым, што ён не скарыстаў магчымасцяў. Але ж у тым і "бяда", што і Шушкевіч, і многія іншыя дэмакраты, — гэта людзі культурныя. Яны проста не могуць дзейнічаць так, як дзейнічаюць людзі з каманды таго, хто заняў пасаду прэзідэнта. Культурныя людзі разлічваюць на гуманныя метады дасягнення прагрэсу, а не на тэрор, а не на тое, каб браць за пелькі альбо за аблычка і душыць... Канешне, можна гаварыць, што Шушкевіч быў наіўны, калі разлічваў паладзіць з людзьмі, якія дзесяткі гадоў "сядзелі ў крэслах" і ведалі, як гэта выгадна, якія выдатна ўсведамлялі, што значыць мець уладу, і якія зусім не думалі ісці разам з Шушкевічам, так бы мовіць, у адной калоне. І Шушкевіч давяраў ім. А тыя ўзялі дый, груба кажучы, з'елі яго. Помню, як на пасяджэнні Прэзідыума ВС пачалі патрабаваць, каб кожны выказаўся, каго выбраць замест Шушкевіча спікерам. Я быў членам Прэзідыума, і калі дайшла чарга да мяне, я спытаў: "Адкажыце спачатку, растлумачце, за што "з'елі" Шушкевіча?" Мёртвая цішыня ў адказ, ніхто нічога не адказаў... А ўсё ж было загадзя спланавана, усё хітра прадумана. Перад гэтым, успомніце, двух сілавых міністраў скінулі. А пасля было 13 красавіка, калі дэпутатаў апазіцыі палкамі выгналі з залы парламента... Вось вам і магчымасці, вось вам і ўлада... Цяпер тыя, што пляскалі ў ладкі, калі выганялі дэмакратаў, і самі могуць апынуцца ў гэткай жа сітуацыі — хай толькі новы Вярхоўны Савет паспрабуе заляпэчыць таму, што яму будзе прадыктавана...

**— Вы сур'ёзна дапускаеце ўсталяванне дыктатуры ў нашай краіне?**

— Я не бяруся сказаць, што будзе заўтра. Пра самае горшае ўсё-такі думаць не хацеў бы, але чакаць нас могуць вельмі невясёлыя рэчы. Чацвёрты пункт рэферэндуму, як вы памятаеце, дае прэзідэнту права разганяць Вярхоўны Савет, калі апошні парушацьме Канстытуцыю. Хто дакажа "ўсенародна абранаму", што парламент не парушае Канстытуцыю?! Ніхто! Скажа: "Парушыў!" — і ўсё тут. І я вас разганяю, і ўстанаўліваю прамое прэзідэнцкае кіраванне. А гэта значыць — дыктатуру адной асобы.

Асабіста я быў катэгарычна супраць увядзення ў Канстытуцыю раздзела аб прэзідэнцтве. Як у ваду глядзеў, не пахвалебы кажучы. Проста адчуваў: мы не гатовыя да прэзідэнцкай формы кіравання. Нам калі і трэба было выбіраць прэзідэнта, дык такога, як у Германіі, — там гэта чыста прадстаўнічая пасада, а галоўную ролю выконвае канцлер. Мы ж захацелі моцнага прэзідэнта. А праз рэферэндум яшчэ і дадалі яму ўлады...

Калі глядзець на сённяшні стан рэчаў зусім рэалістычна, то, сапраўды, усё паказвае на набліжэнне дыктатуры. Вы ж паглядзіце, ужо і свабода слова душыцца. А што будзе далей?! Я не хачу вас страшыць, і думаю, што вы — не з баязлівых, але паўтаруся, сітуацыя можа і пагоршыцца, крыві папсаваць інтэлігенцыі могуць яшчэ нямала. Што ж, відаць, да той долі, пра якую марылі і пра якую марыцца, проста і лёгка прыйсці немагчыма.

**— І ўсё ж, калі дыктатура — дык якая яна будзе? Жорсткая, крывавая, "памяркоўная"? Пад якім, умоўна кажучы, сцягам яна будзе насаджацца? У сваёй кнізе "Фашызм" Жэле Жэлеў, як вядома, адрозніваe чырвоную і белую дыктатуры...**

— Я чытаў гэтую кнігу прафесара і цяперашняга прэзідэнта Балгарыі Жэле Жэлева. Ён падарыў яе мне, калі я быў у Сафіі, яна была напісана яшчэ ў 1967 годзе, выдадзена толькі ў 1982, і за яе Жэлеў нямала калісьці пацярпеў...

Ну, здаецца, чырвоная дыктатура ў нас ужо была. Але справа, думаю, не ў колеры і не ў азначэнні. На вашае пытанне я адказаў бы так: дыктатура — яна і ёсць дыктатура, як яе ні называй. Праўда, яна і сапраўды можа быць рознай. Успомнім, напрыклад, як душыўся рэспубліканскі рэжым у Іспаніі і ўстанаўлівалася дыктатура генерала Франка. Колькі ахвяр было, колькі крыві пралілося! Дастаткова пералічыць імёны адных толькі рэпрэсіраваных паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў! Але потым, пасля вайны, патроху-патроху дыктатура пачала мякчэць, слабець, урэшце, так бы мовіць, сама сябе зжыла — і цяпер у Іспаніі сапраўдная дэмакратыя. Прыкладна тое самае мы можам сказаць і пра рэжым Пінача ў Чылі. І тым не менш гэтыя прыклады перараджэння дыктатуры не могуць апраўдаць тых шматлікіх і страшных ахвяр, якія яна забірае. А ўжо для нашага шматпакутнага народа дыктатура можа азначаць і самы горшы зыход лёсу, можа, і канчатковую яго пагібель...

**— Ніл Сымонавіч, у пачатку вы ўжо казалі пра бруд палітычнай барацьбы, жорсткасць яе законаў і г. д. Але ж палітык — усё-такі перш-наперш чалавек, а тады ўжо палітык. Як узаемапранікаюць гэтыя паняцці: чалавек і палітык, чалавек і "ўладумаючы"? І што ў гэтым сэнсе вы можаце сказаць пра сябе асабіста?**

— Больш за ўсё ў чалавечых паводзінах я не прымаю хамства і гвалту. Нават на побытавым узроўні: скажам — проста на вуліцы. Яшчэ страшней, калі хам становіцца палітыкам. Так ужо здарылася, што самых культурных і самых інтэлігентных у нас вельмі доўгі час вынішчалі. Да ўлады прыходзілі людзі, далёкія ад культуры. Што з гэтага выходзіць — мы бачылі і добра бачым цяпер.

Палітыка, як я ўжо казаў напачатку, так ці інакш звязана з уладай. А да ўлады розныя людзі ставяцца па-рознаму. Ёсць людзі, якім гэта вельмі імпануе: кіраваць, камандаваць, загадваць. А ёсць людзі, для якіх гэта — ну зусім не па характары. Я належу да апошніх. Улады мне ніколі не хацелася, больш таго, я яе заўсёды пазбягаў. Яшчэ з педвучылішча, калі, помню, мяне сілком прымусілі ўзначаліць камсамольскую арганізацыю, а я адчуваў, што гэта — не для мяне... Але жыццё распараджалася мною не лепшым чынам. Мне неадноймы даводзілася ратавацца ад улады. Вось і тады, калі я быў першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў: пакуль чацвёртай заявы не падаў, не мог пазбавіцца ад гэтай пасады. Я проста не ўяўляў, што такое ўлада. Я думаў, што ўсе пісьменнікі зацікаўленыя ў адным: каб нашая літаратура развівалася, багацела, расла. Я спадзяваўся, што перш за ўсё пра літаратуру будзем клапаціцца. А чым прыйшлося займацца? Хадзіць выбіваць кватэры, машыны для пісьменнікаў, пасля Ісрач будаваць: тармасіць міністраў, званіць у Літву, каб дастаць чарапіцу, у Баку, каб дастаць туф, і так далей — словам, ніякай прыемнасці. Не паэты, не пісьменнікі павінны гэтым займацца! Таму я і сышоў тады з высокай пасады ў СП...

**— Ніл Сымонавіч, вы кажаце, што ніколі не хацелі ўлады. Але ж самі ўлады вас, здаецца, любілі і падтрымлівалі...**

— Вы глыбока памыляецеся, калі так лічыце. Улады са мной не сябравалі і да канца не давяралі мне. Была б вельмі доўгая гісторыя, калі б прыгадаць усе факты, як мяне "любілі і падтрымлівалі". Але хоць пра некалькі выпадкаў раскажу. У 1957-м, будучы аспірантам, я збіраўся паехаць у складзе дэлегацыі ў Польшчу. Гэта мелася быць мая самая першая паездка за мяжу. І вось за тыдзень да ад'езду даведваюся, што мяне з дэлегацыі выкінулі. Або — такі факт. Пачынаючы з 1945-га, кожны год адзін беларускі пісьменнік уключаўся ў дэлегацыю БССР на асамблею Аб'яднаных Нацый. Значыць, недзе каля сарака пісьменнікаў і паэтаў там пабывалі. Нават такім беспартыйным дэмакратам, як Адамовіч і Барадулін, аказалі давер, і маіх былых студэнтаў у дэлегацыю ўключалі. І ні разу, ніколі не прапанавалі з'ездзіць мне — нават калі быў кіраўніком СП і членам партыі... Дарэчы, наконт партыі. Мяне часам пытаюць: а навошта вы паступалі ў яе? Адказваю, як было. Спачатку я доўгі час усяляк адмаўляўся, але нарэшце ўбачыў, зразумеў і пераканаўся: калі ты хочаш больш зрабіць для Беларусі, для беларускай мовы і культуры — ідзі, паступай, магчымасці будуць большыя. Пры-

кідкі ж нейкай, што жыццё можа інакш павярнуцца, што разваліцца СССР і так далей, — нават і блізка не было тады...

**— Значыць, раней, скажам, у гады вашай маладосці, нельга было нават здагадавацца, што нешта ўсё-такі робіцца не так, што калі-небудзь настануць перамены? Няўжо вы не бачылі, што чартыяй насаджаюцца фальшывыя каштоўнасці, што гвалтуецца мова, што душацца беларускія школы?**

— Па-першае, забягаючы наперад, я хацеў бы вам сказаць: не спяшайцеся быць суддзямі, не спяшайцеся судзіць... Бо калі, крый Божа, усталюецца дыктатура, якая ўжо была, тады той, хто яшчэ будзе з майго пакалення жывы, паглядзіць, дзе акажуцца сённяшнія смелыя, мужныя ды адважныя, як яны будуць трымацца і што пісаць... А цяпер адкажу на ваша пытанне. Што зробіш, настолькі нас зашорылі марксісцка-ленінскай літаратурай, што мы і сапраўды былі доўгі час сляпымі. Ну, хіба маглі мы прачытаць хоць бы адну праўдзівую кніжку пра тое, што такое рэвалюцыя 17-га, што такое грамадзянская вайна, што такое калектывізацыя, што такое 1937 год і г. д.? А мог бы нам расказаць пра гэта хоць адзін старэйшы чалавек, які ведаў? Мог, увогуле. Але мне на гэта не пашанцавала. Я не ведаю, каму з майго пакалення нехта са сталых людзей альбо са старэйшых пісьменнікаў утлумачыў прыкладна так: "Слухай, хлопча, ты вось вершы пра партыю напісаў. А ты знаеш, што пад яе кіраўніцтвам...?" Я не ведаю, каму так пашанцавала. Гэта я кажу пра свае студэнцкія гады, але калі толькі пачала надыходзіць сталасць і калі мы, я ў прыватнасці, пачалі разумець, што робіцца, мы сталі пратэставаць. Прыкладна з сярэдзіны 50-х гадоў я рэгулярна выступаў у абарону беларускай мовы, з 60-х (калі асабліва пачалі душыць беларускія школы) — ужо і зусім адкрыта выступаў. І петыцыі ў ЦК пісалі, і на сустрэчах у ЦК гаварылі. Бачылі, што робіцца — і пратэставалі. У рамках магчымага, натуральна.

**— Раз вы загаварылі пра мову і пра школу, прычым у непасрэднай узаемасувязі, то пытанне наступнае: як вы ставіцеся да ўтварэння Таварыства беларускай школы? І ці не здаецца вам, што функцыі ТБШ магло б выконваць і ТБМ?**

— Сапраўды, баюся, што мы можам наставараць безліч розных таварыстваў і ўсякіх арганізацый, а відочнай карысці з гэтага не будзе. Наконт Таварыства беларускай школы: канешне, можна было б абысціся і без гэтай арганізацыі, калі б усе суполкі ТБМ працавалі належным чынам, а не існавалі фармальна. Скажам, хай бы ў кожнай школе дзейнічала суполка ТБМ, куды б уваходзілі бацькі, дзеці якіх вучацца. Тады б мы маглі абмежавацца і адным ТБМ.

І ўсё ж ТБМ — гэта ТБМ: гаворка тут ідзе толькі пра мову, пра яе пашырэнне, абарону, пра культуру мовы і гэтак далей. Таварыства ж беларускай школы можа ставіць шырэй задачы: матэрыяльнае становішча іменна беларускай школы, падбор кадраў і інш. Патрэба ў гэткай арганізацыі ёсць. Галоўнае, каб працавала.

**— Ніл Сымонавіч, давайце нарэшце адарвёмся ад спраў грамадскіх, палітычных, надзённых... Якія вашыя найлюбімейшыя паэты?**

— Цяжка адказаць на гэтае пытанне з ходу. Прычым, знаеце, адна справа, што ты вось усведамляеш: гэта — вялікі паэт, а іншая рэч — калі табе хочацца чытаць і перачытваць якога-небудзь паэта.

Купала, Колас, Багдановіч... Усе тры — нашы выдатныя паэты-класікі. Але часцей за ўсё я здымаю з паліцы не Купалу і Коласа, а Багдановіча. І так, як некалі ў зусім зялёным узросце, чытаю, перачытваю, і — няма мяжы майму захапленню. Ведаеце, гэта нават і не захапленне, а нешта іншае, нешта большае... Можа, нейкае зачараванне, ці што?

Калі ж гаварыць пра паэтаў пэўныя перыяды маіх чытацкіх захапленняў, то, можа, першым вялікім адкрыццём для мяне ў свой час быў Багушэвіч — іменна як народны паэт, і не толькі зместам і духам твораў, але і усім стылем сваім народны. Увесь на прыказках, на прымаўках, просты, дасціпны — надта ж блізкі і любы мне быў! Затым Багдановіч — і ўжо на ўсё жыццё. Тады — Панчанка і Куляшоў. А вось Максіма Танка я для сябе адкрыў пазней — можа быць, толькі ва універсітэце. Быў шчаслівы, памятаю, калі Цютчава адкрыў, прычым не ў школе, а пазней... Вы ведаеце, як мы вывучалі паэзію ў школе? Адзін-два вершы ў хрэстаматыі і ўсё. Кніжак жа тады, калі я вучыўся, не было... Зрэшты, напэўна, бываюць такія часы, калі хочацца чытаць менавіта гэтага, а не іншага паэта — пад уплывам настрою, думак уласных. На кожным пэўным этапе жыцця выбар можа быць розны. Думаю, і з вамі будзе гэтак.

**— Дзякуй вам, Ніл Сымонавіч, за гутарку.**

— Дзякуй і вам за тое, што запрасілі, паслухалі мяне. Галоўнае, дарагія мае, каб добра пісалася, каб добра думалася, каб добра жылося — добра, значыць, нязмрочна. Я вось нядаўна вычытаў у М. М. Бахціна такое паняцце: "лёгкі чалавек". Лёгкі — не ў сэнсе лёгкадумны і лёгкаважкі, а той, які лёгка ходзіць па зямлі, у якога лёгкія (светлыя, не цяжкія, як камень) пачуцці да людзей, які любіць гэтае жыццё, гэты свет. У гэткім сэнсе — жыць паэт павінен усё-такі лёгка...

**Гутарку падрыхтаваў да друку**
**Мікола ЧЭМЕР**

## АДРАДЗІЛАСЯ «КАЛОССЕ»

**Таварыства вольных літаратараў наладзіла ў Гродне прэзентацыю з нагоды другога жыцця, якое атрымаў літаратурна-мастацкі альманах «Калоссе».**

У 30-я гады ён выдаваўся ў Вільні і вось цяпер зноў ідзе да свайго чытача дзякуючы гранту ад фонду Сораса і фінансавай падтрымцы з боку фонду «Бацькаўшчына». У часопіса даволі прыстойнае паліграфічнае афармленне і цікавыя планы, звязаныя, у прыватнасці, з выяўленчым мастацтвам, філасофскімі праблемамі. Наладжана супрацоўніцтва з вядомымі ўкраінскімі выданнямі па прынцыпу: мы перакладаем вам, вы — нам.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## У ЛІТОЎСКАГА ПАСОЛЬСТВА — НОВАЯ РЭЗІДЭНЦЫЯ

**Выгляд, дастойны дыпламатычнага прадстаўніцтва, будзе мець пасля рэканструкцыі будынак па вуліцы Захарава, 68. Цяпер ён — уласнасць літоўскай дзяржавы.**

Аб гэтым паведаміў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў нашай рэспубліцы пан Віктарас Баўбліс пасля падпісання 24 студзеня ў Мінскім гарадскім выканаўчым камітэце Дагавора аб арэндзе зямлі тэрмінам на 99 гадоў.

Паводле слоў В.Баўбліса, цяперашняе памяшканне, якое арандуюць літоўцы па вуліцы Варвашэні, цеснае і не прыстасавана для размяшчэння дыпламатычных службаў. Пераезд у новую рэзідэнцыю забяспечыць нармальныя ўмовы для работнікаў пасольства, а таксама збавіць беларускіх грамадзян ад чэргаў за атрыманнем уязных віз. Іх, дарэчы, у 1995 годзе было выдадзена 84 тысячы.

**БЕЛТА.**

Спадчына "НАРОДНАЯ ГАЗЭТА"

# ...І ўсё ж Нясвіж патроху адраджаецца

**Іван ГЕРАСЮК**

Такіх гарадоў у Беларусі больш няма. Нясвіж — адзіны, які так шмат захаваў ад сваёй былой прыгажосці і годнасці. Літаральна ў кожным яго куточку адчуваеш подых мінуўшчыны. Жамчужынай еўрапейскай архітэктуры без сумнення мог бы быць палац Радзівілаў, калі б за яго сценамі ўсё захавалася так, як было ў 1939 годзе, калі людзі яшчэ шанавалі тыя мясціны, дзе яны жывуць. На жаль, камуністычныя ўлады былі занадта спрактыкаваныя ў справе знішчэння "проклятого буржуазного наследия".

Старажылы ўспамінаюць, што калісьці гэты манументальны будынак быў відаць здалёк. За паўвека на валах вакол палаца павырасталі дрэвы-самасейкі і закрылі замак. На колішняй гандлёвай плошчы цiснуцца машыны, рассыпаны вугаль, сцены ў падцёках.

Калі адзначалася 400-годдзе фарнага касцёла (які, дзякуй Богу, бальшавікі тут не ўзарвалі, як храм Хрыста Спасіцеля ў Маскве), нашчадцы Радзівілаў, што прыехала на ўрачыстасці, не дазволілі перачачаваць у былым сямейным гняздзе. Вядома, не таму, што баяліся. Сорамна было за тое, што зрабілі яны з архітэктурным помнікам.

Але ўсё ж самая галоўная славутасць Нясвіжа — фарны касцёл, дзе пахаваны многія пакаленні Радзівілаў. Цяпер тут служыць ксёндз Гэнрык Акалатовіч.

— Так, наш касцёл старажытны, прыгожы, з непаўторнымі фрэскамі, іконамі, скульптурамі. А якія скляпенні! — расказвае ён. — Праца тут вельмі адказная. Мы, па сутнасці, з'яўляемся ахоўнікамі гэтых помнікаў мінулага. У звычайным касцёле прасцей. Адзін раз гадоў у дзесяць—пятнаццаць пабяліў, пафарбаваў — і ўсё. А тут?! Гэтыя цудоўныя фрэскі як былі намаляваны стагоддзі назад, так і ёсць. На гэта патрэбны велізарныя грошы.

Нясвіжскі касцёл пабудаваны ў 1593 годзе. Архітэктар — італьянец Ян Марыя Бернардоні. Фрэскі таксама італьянскай школы.

Пад касцёлам знаходзяцца склепы, дзе пахаваны многія з роду Радзівілаў. Усе астанкі забальзаміраваны. Ранейшы ксёндз Гжэгаш Каласоўскі расказваў, што на пачатку 50-х гадоў у Нясвіж прыязджала камісія з Масквы з маўзалея Леніна. Яны хацелі вывучыць таямніцы бальзаміравання. На тое было дзве падставы — пачало псавацца цела Леніна і яго трэба было ратаваць. Акрамя таго, рыхтаваліся бальзаміраваць Сталіна. Тады адкрылі труну, дзе ляжала дзяўчына, памёршая ў 1825 годзе. Усе былі літаральна ў шоку: скура яшчэ свежая, мяккая, далікатная. Не кранууўся тлен ні валасоў, ні вопраткі. Але якія даследаванні ні праводзілі, таямніцы бальзаміравання так і не ўдалося раскрыць.

— Мы ўжо неаднойчы звярталіся ў Міністэрства культуры Беларусі, — працягвае ксёндз, — каб выратаваць хоць бы фрэскі, надпісы на трунах (на кожнай з іх ёсць кароткая біяграфія. — Аўт.). У адказ адноўчы пачулі і такое: "Там ляжыць сваячка польскага караля Яна III Сабескага, дык хай палякі гэта і робяць".

Цынізм у адносінах да гістарычнай спадчыны быў заўсёды ўласцівы бальшавікам і іх сённяшнім паслядоўнікам. А што датычыцца рэлігіі, дык яны і ўвогуле не адступаюць ад лініі свайго куміра-правадыра: "Рэлігія — опіум для народа".

Ёсць у нясвіжскім касцёле фігурка Хрыста Міласэрнага. Гісторыя яе з'яўлення тут даволі паказальная. Гэнрык Акалатовіч быў тады маладым ксяндзом у Браславе і вучыўся ў Любельскім каталіцкім універсітэце.

— Кожны месяц мне трэба было афармляць пашпарт на выезд, — расказвае ён. — Паехаў аднойчы ў Віцебск і гляджу — на падворку АВІРа ў смецці фігурка ляжыць. Я стаў прасіць у іх, каб прадалі. "Гэта не наша, — адказваюць. — Гэта з КДБ на чацвёртым паверсе". Пайшоў туды. Там чалавек у цывільным. Зноў прашу: "Прадайце мне гэтую фігурку для касцёла".— "Не, не прадамо."— "А што трэба зрабіць, каб яе атрымаць? Можа, выменяць на штосьці?".

Далей пан Гэнрык удавацца ў дэталі не стаў. Фігурка цяпер у касцёле.

— Ну, давялося зрабіць нейкі прэзент. Тады якраз час быў такі, што Гарбачоў змагаўся з алкагалізмам.

На жаль, такімі прэзентамі не абыдзешся, каб захаваць бясцэнную спадчыну, сабраную ў касцёле. Прыязджалі сюды і палякі, і немцы, і японцы. Усе гатовы былі выканаць неабходныя работы, але, даведаўшыся, што прыхаджане могуць заплаціць толькі сваімі айчыннымі рублямі, адразу спынялі размовы на гэту тэму.

Гэнрык Акалатовіч жыве непадалёку ад касцёла ва ўласным доме. Чысты падворак, дагледжаная гаспадарка, званочак ля дзвярэй папярэджвае, што нехта прыйшоў. У гасцінай шмат розных рэлігійных атрыбутаў, на сценах фотаздымкі гаспадара побач з папам Янам Паўлам II. На паліцах — сотні кніжак на самых розных мовах. У Любельскім універсітэце Гэнрык атрымаў яшчэ і прафесію юрыста. Як жа ў тыя часы ўдалося яму трапіць на вучобу за мяжу?

— О-о, гэта неверагодная авантура, — усміхаецца ён. — Я быў першым ксяндзом Савецкага Саюза, які змог патрапіць на гэту вучобу. Прыйшоў я да начальніка ўпраўлення па справах рэлігіі, прозвішча яго было Залескі. Пытаюся, ці дазволяць мне вучыцца ў Польшчы. Кажу: "Я не хачу на Захад да капіталістаў, я паеду да нашых братоў-палякаў". А ён у адказ: "Хопіць табе таго, што павучыўся ў Рызе, нікуды ты не паедзеш". У той момант быў у яго нейкі амерыканскі журналіст з Масквы. Было гэта якраз напярэдадні візіту Гарбачова ў ЗША. Той журналіст таксама ехаў у Амерыку. На прэс-канферэнцыі ён Гарбачову прама пра мяне і сказаў: "Касцёльныя ўлады і польскі універсітэт не супраць яго вучыць, а беларускія ўлады не згаджаюцца". Гарбачоў адказаў так: "У нас дэмакратыя, свабода, я не бачу прычын, каб ён не мог паехаць". Той журналіст пазваніў мне з Масквы, я паехаў у Мінск. Дык той жа Залескі ўжо зусім іншым чалавекам стаў: "Едзь, калі ласка. Я яшчэ цябе і благаслаўлю".

Цяпер праблем з выездам няма. Ксёндз часта бывае ў Еўропе. Але ж на паездкі грошы патрэбны немалыя, і правамерным было пытанне: колькі ж ён зарабляе?

— Абшчына плаціць мне 90.000 рублёў у месяц. Жыву на гаспадарцы. Яна ў мяне вялікая, — усміхаецца ён. — Дзве памочніцы дапамагаюць. Адной 17 гадоў, а другой 18. Менавіта па столькі не хапае ім да ста. Зразумела, яшчэ і сябры. Мой, можна сказаць, лепшы сябар старшыня райвыканкама Уладзімір Дражын. Дапамагае чым можа, але і ў іх з грашыма цяжкавата.

І ўсё ж Нясвіж патроху адраджаецца як старажытны заходні горад. Не ўсё ўдалося спаганіць за гады панавання "ума, чести и совести нашей эпохи". І ён назаўжды застанецца прыгажэйшым гарадком на нашай зямлі.

# Як беларускія габрэі Ізраіль стварылі

Эмануіл ІОФЭ
доктар гістарычных навук

Беларуская Мінуўшчына”

***14 мая 1948 года на палітычнай карце свету з’явілася новая краіна – Дзяржава Ізраіль. Стварэнне яе з’явілася вынікам доўгага і складанага працэсу, барацьбы, якую вялі дзеячы сіяніскага руху за ўтварэнне нацыянальнага ачага на сваёй гістарычнай радзіме, а таксама ўмелага выкарыстання новых гістарычных умоў пасля перамогі антыгітлераўскай кааліцыі над германскім фашызмам.***

***Сярод сіяніскіх дзеячоў, якія вялі вялікую ідэалагічную і практычную работу па стварэнню ў Палесціне незалежнай яўрэйскай дзяржавы, было нямала беларускіх яўрэяў. Пры напісанні гэтага матэрыяла выкарыстаны некаторыя архівы, энцыклапедычныя і даведачныя выданні.***

Адным з лідэраў сусветнага сіяніскага руху і першым прэзідэнтам Дзяржавы Ізраіль быў ураджэнец мястэчка Моталь Кобрынскага павета Гродзенскай губерні (цяпер в.Моталь Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці) Хаім Вейцман. У сям’і яго бацькі Озера, які працаваў лесасплаўшчыкам, было 15 дзяцей. Хаім быў трэцім. Пасля атрымання традыцыйнай яўрэйскай адукацыі і заканчэння Пінскага рэальнага вучылішча ён вывучаў хімію ў Германіі і Швейцарыі. У 1897 годзе, калі яму было толькі 23 гады, Хаім Вейцман атрымаў ступень доктара. Годам раней ён далучыўся да сіяніскага руху, а ў 1897 годзе ўжо ўдзельнічаў у рабоце Сусветнага сіяніскага кангрэса. У пачатку XX стагоддзя, падтрымліваючы ідэю стварэння яўрэйскай дзяржавы, асноўную ўвагу Вейцман ўдзяляў павелічэнню колькасці яўрэйскага насельніцтва Палесціны, пашырэнню іміграцыі ў краіну, стварэнню сельскагаспадарчых пасяленняў, прамысловых прадпрыемстваў, "створаных яўрэямі для самiх сябе". Менавіта Хаім Вейцман-адзін з нямногіх сіяніскіх лідэраў, які выступіў ў ліку галоўных праціўнікаў плана яўрэйскай каланізацыі Уганды, угледзеўшы ў ім здраду сіяніскаму ідэалу вяртання яўрэяў у Палесціну.

У 1920 – 1931 і 1935 – 1946 гадах Вейцман выбіраўся прэзідэнтам Сусветнай сіяніскай арганізацыі і спрабаваў змякчыць антысіяніскую палітыку брытанскага ўрада і брытанскіх мандатных улад у Палесціне. Кіпучая дзейнасць нашага земляка паспрыяла таму, што ў канцы другой сусветнай вайны ў складзе брытанскай арміі была сфарміравана Яўрэйская брыгада, якая вызначылася ў баях з войскамі гітлераўскага вермахта.

Хаім Вейцман браў удзел у складзе яўрэйскай дэлегацыі ў рабоце Генеральнай асамблеі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, якая абмяркоўвала праблему раздзела Палесціны на яўрэйскую і арабскую дзяржавы. Менавіта тады ён прадставіў міжнароднай грамадскасці свой дэтальна распрацаваны пункт погляду спецыяльнай камісіі ААН. Выступленне вядомага вучонага і грамадскага дзеяча зрабіла глыбокае ўражанне на дыпламатаў многіх краін. 29 лістапада 1947 года Арганізацыя Аб’яднаных Нацый большасцю галасоў прыняла рэзалюцыю аб раздзеле Палесціны на дзве дзяржавы. Менавіта дзякуючы намаганням Хаіма Вейцмана ЗША хутка прызналі абвешчаную 14 мая 1948 года Дзяржаву Ізраіль. Цікава, што ў дзень абвяшчэння новай краіны прэзідэнт ЗША Гары Трумэн у адказ на асабістае пісьмо Хаіма Вейцмана пацвердзіў прызнанне Ізраіля Злучанымі Штатамі Амерыкі, а ў канцы гэтага ж дня прыбыла тэлеграма ад кіраўнікоў рабочых партый Ізраіля, якая паведамляла аб іх намеры вылучыць кандыдатуру Вейцмана на пасаду прэзідэнта новай дзяржавы. Праз некалькі дзён Хаім Вейцман у якасці прэзідэнта Часовага дзяржаўнага савета Ізраіля быў прыняты амерыканскім прэзідэнтам. Менавіта тады ён заручыўся абяцаннем Трумэна фінансаваць пачатак эканамічнага развіцця новай дзяржавы шляхам пазыкі ў 100 мільёнаў долараў, а таксама ўстанавіць поўныя дыпламатычныя адносіны з Ізраілем, як толькі будзе выбраны яго першы дэмакрататычны ўрад. У лютым 1949 года Хаім Вейцман быў выбраны першым прэзідэнтам Дзяржавы Ізраіль.

Ён памёр у 1952 годзе. Імя Хаіма Вейцмана носіць навукова-даследчы інстытут у Рэхавоце, на тэрыторыі якога (у садзе свайго дома) ён і пахаваны.

Мястэчка Вішнева (цяпер в.Вішнева Валожынскага раёна) дала свету аднаго з лідэраў сіянізму Нахума Гольдмана. Нарадзіўся ён у 1895 годзе, а праз два гады сям’я выехала ў Германію. У 24 гады Гольдман абараніў дысертацыю на ступень доктара права, а ў 25-доктара філасофіі. У 1934 годзе Гольдман быў выбраны старшынёй камітэта яўрэйскіх дэлегацый, а з 1935 года стаў прадстаўніком Яўрэйскага агенцтва пры Лізе Нацый. Ён быў адным з заснавальнікаў Сусветнага яўрэйскага кангрэса, а таксама старшынёй яго выканаўчага савета.

У пачатку другой сусветнай вайны Гольдман пераехаў у Нью-Ёрк, дзе разгарнуў барацьбу за неадкладнае стварэнне яўрэйскай дяржавы. У 1948 – 1956 гадах з’яўляўся старшынёй выканаўчага камітэта сіяніскай арганізацыі, а з 1949 года ўзначальваў амерыканскае аддзяленне Яўрэйскага агенцтва. У 1949 – 1978 гадах Нахум Гольдман быў прэзідэнтам Сусветнага яўрэйскага кангрэса, а ў 1956 – 1968 гадах – прэзідэнтам Сусветнай сіяніскай арганізацыі. На ўсіх гэтых пасадах ён садзейнічаў стварэнню і міжнароднаму прызнанню Дзяржавы Ізраіль. Менавіта Нахум Гольдман быў ініцыятарам і ўдзельнікам перамоў з канцлерам ФРГ Конрадам Адэнаўэрам аб выплаце рэпарацый Ізраілю і кампенсацый ахвярам нацызма. Ён памёр у Парыжы ў 1982 годзе.

Адным з кіраўнікоў сіяніскага і яўрэйскага рабочага руху ў свеце і Ізраілі быў ураджэнец мястэчка Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці Залман Шазар (сапраўднае прозвішча Рубашоў) (1889 – 1974). Ён вучыўся ў вядомых універсітэтах Германіі і Францыі. Шазар упершыню наведаў Палесціну у 1911 годзе, у 22-гадовым узросце. Пасля гэтага ён стаў актыўным прапагандыстам стварэння незалежнай яўрэйскай дзяржавы. Шазар быў выбраны ў кіруючыя органы сіяніскага руху, а пераехаўшы ў Палесціну ў 1924 годзе, у кіраўніцтва Гістадрута. Ён з’яўляўся адным з рэдактараў газеты "Давар", дэпутатам першага Кнесета.

Залман Шазар быў міністрам асветы і культуры, членам праўлення Яўрэйскага агенцтва (Сахнута), начальнікам аддзела асветы і культуры Сусветнай сіяніскай арганізацыі. Ён быў таленавітым пісьменнікам, журналістам і гісторыкам. 21 мая 1963 года Залман Шазар быў выбраны трэцім прэзідэнтам Дзяржавы Ізраіль і займаў гэтую пасаду да 1973 года – цэлых 10 гадоў з 47-гадовай гісторыі Ізраіля.

Адным з актыўных прапагандыстаў ідэі стварэння ў Палесціне незалежнай яўрэйскай дзяржавы, дзеячом рабочага руху была ўраджэнка Магілёва Роза Кохен (1890 – 1937). Пераехаўшы ў 1923 годзе ў Тэль-Авіў, яна стала членам рабочага савета горада і многія гады была цэнтральнай фігурай у штабе Хаганы (арганізацыі, якая вяла ўзброеную барацьбу супраць англійскіх уладаў).

Сын Розы Кохен – відны палітычны і ваенны дзеяч Ізраіля, былы начальнік генеральнага штаба і цяперашні прэм’ер-міністр Дзяржавы Ізраіль Іцхак Рабін.

Беларускія яўрэі прынялі актыўны ўдзел у працэсе стварэння Дзяржавы Ізраіль на ўсіх яго этапах, асабліва ў 1944 – 1948 гадах. Найбольш значны ўклад у гэты працэс унёс Менахем Бегін (1913 – 1992). Ён нарадзіўся ў Брэст-Літоўску і жыў у Польшчы. У 1929 годзе Бегін уступіў у сіяніскую маладзёжную арганізацыю "Бейтар".

У 1939 годзе, калі немцы занялі Варшаву, Бегін перабраўся ў Вільнюс. Тут у 1940 годзе ён быў арыштаваны савецкімі ўладамі і прыгавораны да васьмі гадоў папраўча-працоўных работ. Адбываць гэты тэрмін Бегін быў адпраўлены ў Запаляр’е, у лагер на рацэ Пячора.

У канцы 1941 года Бегін, як польскі грамадзянін, быў вызвалены з лагера і ўступіў у польскую армію генерала Андэрса. У 1942 годзе разам з часцямі гэтай арміі ён прыехаў у Палесціну, якая знаходзілася пад мандатам Брытаніі. Пасля дэмабілізацыі з арміі Андэрса ў 1943 годзе Бегін стаў камандуючым яўрэйскай падпольнай ваеннай арганізацыі "Іргун цвей леумі"(Эцэл), якая змагалася за стварэнне незалежнай яўрэйскай дзяржавы на тэрыторыі Палесціны. Англійскія ўлады прызначылі ўзнагароду за яго галаву ў памеры 10 тысяч фунтаў стэрлінгаў. У той час гэта былі вялікія грошы.

У студзені 1944 года Эцэл абвясціў "паўстанне супраць брытанскага ўладарання" і заклікаў яўрэйскае насельніцтва Палесціны да барацьбы за "выгнанне брытанскіх акупантаў". Пад кіраўніцтвам Менахема Бегіна былі праведзены шматлікія дыверсійныя акты супраць англійскіх урадавых установаў і ваенных аб’ектаў, якія абвастрылі барацьбу ішува (яўрэйскага грамадства ў Палесціне) з англійскім урадам. Хаваючыся ў падполлі ў Тэль-Авіве, ён кіраваў баевікамі, якія ўзарвалі гатэль "Цар Давід" у Іерусаліме. Тады было забіта каля ста чалавек. У гэтым гатэлі знаходзіўся цэнтр мандатнай адміністрацыі. Пад час выбуху загінула шмат урадавых чыноўнікаў-англічан, арабаў, яўрэяў, Кіруючыя органы ішува адмежаваліся ад гэтага акта.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Ізраіля Бегін выйшаў з падполля і ў ліпені 1949 года на базе "Іргун цвей леумі" заснаваў сіяніскую партыю Херут ("Рух свабоды"), стаўшы яе старшынёй (да 1983 года). У 1967 – 1970 гадах ён быў дзяржаўным міністрам без партфеля, а ў 1977 – 1983 гадах -прэм’ер-міністрам Ізраіля.

У 1978 годзе Менахему Бегіну была прысуджана Нобелеўская прэмія міру (сумесна з Анварам Садатам) за падрыхтоўку і падпісанне Кэмп-Дэвідскіх пагадненняў і мірнага дагавора паміж Егіптам і Ізраілем.

"Лохамей Херут Ісраэль" (Лехі, літаральна – "Барацьбіты за свабоду Ізраіля") – баявая падпольная яўрэйская арганізацыя ў падмандатнай Палесціне, якая ўзнікла ў 1940 годзе ў выніку раскола "Іргун цвей леумі". Група на чале з А.Штэрнам адвергла рашэнне спыніць узброеную барацьбу супраць брытанскіх улад на час другой сусветнай вайны і абвясціла аб працягванні баявых акцый. З 1942 года адкалоўшаяся група назвала сябе ЛХІ (або Лехі). 12 лютага 1942 года А.Штэрн быў застрэлены на явачнай кватэры афіцэрам брытанскай паліцыі. Пасля гэтага забойства і арышту многіх яе кіраўнікоў Лехі амаль распалася і здолела аднавіць узброеныя акцыі толькі ў пачатку 1944 года.

Новае кіраўніцтва складалася з І.Шаміра, Н.Ялін-Мора і І.Элдада. Чалавекам нумар адзін у гэтай арганізацыі быў ураджэнец мястэчка Ружаны Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці Іцхак Шамір. Ён эмігрыраваў з Заходняй Беларусі ў 1935 годзе, калі яму было дваццаць гадоў.

Пасля абвяшчэння Дзяржавы Ізраіль Іцхак Шамір быў старшынёй крайне правай сіяніскай партыі Херут. У 80-я гады ён двойчы ўзначальваў урад краіны. У 1992 годзе Шамір наведваў Беларусь і пабываў на сваёй радзіме у мястэчку Ружаны.

Арганізатарам яўрэйскай абароны на падмандатнай тэрыторыі Палесціны, адным з заснавальнікаў і кіраўнікоў Хаганы быў Эліяху Галомб. Ён нарадзіўся ў Ваўкавыску ў 1893 годзе. Калі хлопцу было 16 год, ён прыехаў у Палесціну, дзе праз чатыры гады скончыў тэль-авіўскую гімназію. У 1918 годзе Галомб быў адным з арганізатараў Яўрэйскага легіёна, які ўваходзіў у склад англійскай арміі. У 1936 – 1939 гадах ён стаў адным з ініцыятараў стварэння "палявых атрадаў", якія змагаліся з арабскімі тэрарыстамі. У 1930 – 1940 гадах Э.Галомб і Б.Кацнельсон спрабавалі дасягнуць пагаднення з З.Жабацінскім адносна аб’яднання сіяніскага руху і зліцця ўсіх ўзброеных сіл ішува пад адзіным камандаваннем. Менавіта такой адзінай ваеннай сілай яўрэйскага народа, на думку Галомба, павінна была стаць Хагана.

Эліяху Галомб быў адным са стваральнікаў асобых атрадаў Хаганы – Палмаха, заклаў асновы ўзброеных сіл Ізраіля, вызначыў напрамак іх развіцця, з’яўляўся адным з кіраўнікоў Гістадрута, Ваада Леумі (прадстаўнічага органа яўрэяў падмандатнай Палесціны), дэлегатам многіх сіяніскіх кангрэсаў, відным грамадскім дзеячом.

Яго не стала ў 1945 годзе. У доме, у якім жыў у Тэль-Авіве Галомб, створаны музей Хаганы, які названы яго іменем.

Відным ізраільскім военачальнікам, адным са стваральнікаў Арміі Абароны Ізраіля быў ураджэнец Барысава Хаім Ласкоў (1919 – 1982). У 1939 годзе ён уступіў у Хагану і хутка стаў намеснікам камандзіра асобага атрада для паадказных акцый супраць арабскіх нападаў. У 1942 – 1943 гадах у складзе Палесцінскага палка брытанскай арміі Ласкоў удзельнічаў у ваенных аперацыях у Кірэнаіцы і Егіпце. У пачатку 1945 года ў якасці камандзіра 2-га батальёна Яўрэйскай брыгады ён прымаў ўдзел у баях з нямецкімі часцямі пры фарсіраванні ракі Санно паблізу Равены ў Італіі. Пасля мая 1945 года Хаім Ласкоў знаходзіўся ў Паўночнай Італіі, Бельгіі і Нідэрландах, дзе займаўся закупкай ваеннай амуніцыі і перапраўкай людзей ў Палесціну. Пасля вяртання на

радзіму ён быў прызначаны афіцэрам бяспекі электрычнай кампаніі, а ў падполлі-афіцэрам-інструктарам Хаганы. Пазней, як начальнік першай у краіне афіцэрскай школы, Ласкоў адыграў важную ролю ў падрыхтоўцы камандных кадраў для Арміі Абароны Ізраіля. Менавіта ён камандаваў першым танкавым батальёнам 7-й брыгады, які праявіў вайсковую мужнасць ў баях за Латурн. У баях за Назарэт і вызваленне Галілеі Ласкоў удзельнічаў у якасці камандзіра брыгады.

У 1949 годзе яму прысвоілі званне генерал-маёра і даручылі ўзначаліць аддзел ваеннай падрыхтоўкі генеральнага штаба. У 1958 – 1961 гадах Хаім Ласкоў з'яўляўся пятым начальнікам генеральнага штаба Арміі Абароны Ізраіля.

Мы ўжо адзначалі, што ў мястэчку Вішнева у 1895 годзе нарадзіўся адзін з лідэраў сусветнага сіянізму Нахум Гольдман. А праз 28 год, у 1923 годзе, у гэтым жа мястэчку нарадзіўся відны палітычны і ваенны дзеяч Ізраіля, таленавіты ізраільскі дыпламат, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Шыман Перэс (сапраўднае прозвішча Перскі). Яго бацька ў 1931 годзе эмігрыраваў у Палесціну. Праз тры гады, разбагацеўшы на гандлі збожжам, ён выклікаў да сябе жонку і дзяцей. Да вясны 1934 года сям'я Перэсаў – бацька, маці, Шыман і малодшы брат Гершан – абасналіся на "зямлі абетаванай".

У 20 гадоў Шыман Перэс стаў лідэрам маладзёжнай сіяніскай арганізацыі "Ноар ха-Овед", а ў 1946 годзе быў выбраны дэлегатам 22-га сіяніскага кангрэса ў Базелі. У 1948 годзе Перэс стаў працаваць у міністэрстве абароны Ізраіля памочнікам Леві Эшкола, у той час генеральнага дырэктара гэтага ведамства. Ён адказваў за ваенна-марскія сілы, а ў 1949 – 1951 гадах стаў кіраўніком прадстаўніцтва міністэрства абароны ў ЗША. Менавіта Давід Бен-Гурыон "адкрыў" 26-гадовага Шымана Перэса. Менавіта прэм'ер-міністр толькі што створанай дзяржавы паслаў яго ў ЗША на чале дэлегацыі па закупцы зброі.

Наш зямляк пазней займаў пасады міністра без партфеля, міністра фінансаў, міністра абароны, намесніка прэм'ер-міністра, прэм'ер-міністра. Сёння ён – міністр замежных спраў ва ўрадзе Іцхака Рабіна.

У 1994 годзе Шыману Перэсу разам з Іцхакам Рабінам і Ясірам Арафатам была прысуджана Нобелеўская прэмія міра.

У 1992 годзе Перэс наведаў Беларусь і пабываў на сваёй радзіме ў вёсцы Вішнева.

Многім вядома, што выдатны палітычны дзеяч Ізраіля Голда Меір (Мабовіч) нарадзілася ў Кіеве ў 1898 годзе. Але мала хто ведае, што большую частку свайго дзяцінства (амаль сем год) яна правяла ў старажытным Пінску, дзе жылі яе дзядуля і бабуля. У 1906 годзе сям'я Голды эмігрыравала ў ЗША і пасялілася ў Мілуокі. У 1917 годзе Голда Мабовіч выйшла замуж за Морыса Меерсона, а праз чатыры гады яны прыехалі ў Палесціну і пасяліліся ў кібуцы "Мерхавія" ("Меравія").

Голда Меір прымала актыўны ўдзел у палітычным жыцці краіны, асабліва ў барацьбе іншува з мандатнай адміністрацыяй ў 40-я гады. Калі брытанскія ўлады арыштавалі у чэрвені 1946 года лідэраў іншува, Меір, у той час член праўлення Яўрэйскага Агенцтва, была выбрана сапраўдным кіраўніком яго палітычнага аддзела і такім чынам – галоўным прадстаўніком іншува ў перамовах з брытанскай адміністрацыяй. У студзені 1948 года яна была накіравана ў ЗША, каб заручыцца падтрымкай амерыканскага яўрэйства ў барацьбе іншува за незалежнасць і супраць арабскай агрэсіі. Яна правяла ў Злучаных Штатах шэсць тыдняў і прывезла адтуль 50 мільёнаў долараў. Гэтыя грошы дапамаглі закупіць зброю для Хаганы і выйграць вайну.

Голда Меір імкнулася прадухіліць уступленне ў вайну Трансіарданіі, адзінай арабскай краіны, якая падтрымлівала адносіны з яўрэямі Палесціны.

Пасля абвяшчэння Дзяржавы Ізраіль Голда Меір была прызначана паслом у СССР і займала гэту пасаду з верасня 1948 па красавік 1949 года. Затым яна была міністрам працы, міністрам замежных спраў, а ў 1969 – 1974 гадах з'яўлялася прэм'ер-міністрам Дзяржавы Ізраіль.

Голда Меір памерла ў 1978 годзе і пахавана на гары Герцль у Іерусаліме.

Наш кароткі агляд сведчыць, што беларускія яўрэі ўнеслі значны ўклад у стварэнне Дзяржавы Ізраіль на ўсіх этапах гэтага доўгага і складанага працэса. Яны былі палымянымі прапагандыстамі гэтай ідэі, паклалі свае веды, энергію, сілы, а некаторыя – нават і жыццё, каб ажыццявіць яе на практыцы. Ураджэнцамі Беларусі былі першы прэзідэнт краіны, значная колькасць міністраў, военачальнікаў, многія лідэры сусветнага сіяніскага руху, заснавальнікі і лідэры многіх партый. Ёсць усе падставы сцвярджаць што сувязі паміж Рэспублікай Беларусь і Дзяржавай Ізраіль маюць багатае мінулае, трывалыя падмуркі, а гэта, у сваю чаргу, абяцае добры плён у будучым.

# ГЕРАСТРАТАВА СЛАВА?

**ЛіМ**

**У афіцыйных і не афіцыйных нашых візіцёраў у краіны далёкага замежжа стала ўжо ці не традыцыйяй бедаваць, што пра Беларусь там ведаюць да крыўднага мала, і ў многіх людзей яна асацыіруецца проста з Расіяй. Апошнім часам, мяркую, у справе гэтай адбыліся істотныя змены. Беларусь сёння набыла ў свеце шырокую вядомасць. На вялікі жаль, часам не лепшага кшталту, а то і скандальную. І вінаватых далёка шукаць не даводзіцца — самі стараемся.**

**Апошні прыклад — інтэрв'ю прэзідэнта А. Лукашэнкі нямецкай газеце "Хандэльсблат" (яно трансліравалася па Беларускім радыё), у якім Аляксандр Рыгоравіч раптам згадаў... нацысцкага фюрэра Адольфа Гітлера. Ды як згадаў...**

**Шырока вядомая ахвота А. Лукашэнкі да публічных выступленняў, дзе ён аднолькава ўпэўнена трымае сябе перад любой аўдыторыяй — ці перад ім аграрыі, ці пісьменнікі з музыкантамі. Ды толькі шкада, што забываецца часам на прымаўку: "Слова не верабей — вылецела, не зловіш". "Вылеты", як ні прыкра, надараюцца.**

**Звычайна пасля такіх "вылетаў" адразу прыходзіцца ў дзеянне ідэалагічная служба прэзідэнта, якая ў самых рашучых выразах пнецца даказаць, што А. Лукашэнка не так зразумелі, не так інтэрпрэтавалі, наўмысна сказілі і да т. п.**

**Так адбылося і цяпер, пасля згаданага вышэй афронту прэзідэнта Беларусі, які ўзняў вялікую хвалю пратэсту сярод айчыннай і сусветнай грамадскасці. Упраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта на чале з У.Замяталіным адразу распаўсюдзіла заяву, у якой рэакцыя на "откровения" Аляксандра Рыгоравіча тлумачыцца падкопамі антыпрэзідэнцкіх сіл, якім за гэта "добра заплацілі".**

**У сувязі з заявай службы У.Замяталіна прывяду досыць пікантны факт. У адным з раёнаў Мінска днямі міліцыяй быў затрыманы малады чалавек, які распаўсюджваў на вуліцы ксеракопіі інтэрв'ю Аляксандра Рыгоравіча. "Зламысніка" забралі ў міліцыю, дзе ксеракопіі "канфіскавалі", праўда, самога "злачынцу" ўсё-такі адпусцілі...**

**Застаецца зараз толькі здагадвацца, колькі долараў "адхапілі" шырокавядомыя ў свеце рускі пісьменнік Рыгор Бакланаў, беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, нямецкія, амерыканскія, польскія грамадскія дзеячы, публіцысты, палітолагі, што ўзнялі свой голас пратэсту супраць гэтакіх выказванняў прэзідэнта Беларусі.**

**Зрэшты, гаворка ідзе не пра нейкае слова, што выпадкова вылецела з вуснаў прэзідэнта. Вось некалькі вытрымак са згаданага інтэрв'ю (узяты толькі адказы А.Лукашэнкі): "І не толькі благое звязана ў Германіі з вядомым Адольфам Гітлерам". "Але ўспомніце яго ўладу ў Германіі... Нямецкі парадак фарміраваўся стагоддзямі. Пры Гітлеру гэтае фарміраванне дасягнула вышэйшай адзнакі. Гэта тое, што адпавядае нашаму разуменню прэзідэнцкай рэспублікі і ролі ў ёй прэзідэнта". "Не, я падкрэсліваю, што не можа быць у якім-небудзь працэсе ці ў якім-небудзь чалавеку ўсё чорнае або ўсё белае. Ёсць і станоўчае. Гітлер сфарміраваў магутную Германію дзякуючы моцнай прэзідэнцкай уладзе. Гэта былі 30-ыя гады, перыяд моцнага крызісу ў Еўропе, а Германія паднялася дзякуючы моцнай уладзе, дзякуючы таму, што ўся нацыя магла кансалідавацца і аб'ядняцца вакол лідэра".**

**Годзе? Сапраўды, хопіць і гэтага...**

**Многія замежныя наглядальнікі адзначаюць пры гэтым здзіўляючую недасведчанасць у пытаннях даваеннай гісторыі той жа Германіі. Адольф Гітлер ніколі не быў прэзідэнтам Германіі, ён быў канцлерам. Прэзідэнтам у час прыходу яго да ўлады (і паспрыяўшы гэтаму) быў састарэлы фельдмаршал Гіндэнбург.**

**Але справа не ў гэтай "дробязнай" памылцы. Справа ж ідзе пра такую пачварную з'яву, як гітлерызм, нацыянал-сацыялізм, што прывялі да жудаснай катастрофы нямецкі народ, Германію, не кажучы ўжо пра дзесяткі мільёнаў ахвяр, развязанай гітлераўскім фашызмам другой сусветнай вайны.**

**Менш за ўсё ў гэтай нататцы мне б хацелася займацца "политграмотой". Ды яшчэ па пытаннях, якія сёння, здаецца, зразумелы кожнаму школьніку. Але ж мы маем справу са здарэннем неардынарным, здарэннем, якое ў год паўвекавога юбілею Перамогі над гітлераўскай Германіяй на карту паставіла міжнародны аўтарытэт Беларусі.**

**У сувязі з усім сказаным, згадваюцца падзеі не такога ўжо далёкага мінулага. Май гэтага года. Перад маючымі адбыцца выбарамі і рэферэндумам ідэалагічнымі службамі прэзідэнта было зроблена ўсё, каб скампраметаваць апазіцыю БНФ, прыпісваючы ёй апалагетыку гітлераўскага "новага парадку". Згадаем толькі фільм-фальшыўку "Нянавісць: дзеці хлусні" Ю. Азаронка, некаторыя перадачы радыё і тэлеперадачы.**

**Тады антыбэнээфаўская кампанія, праведзеная менавіта ў антыфашысцкім ключы, пэўным чынам паўплывала на вынікі выбараў у Вярхоўны Савет, у які не было абрана ніводнага прадстаўніка апазіцыі. Ці не галоўную ролю ў гэтым адыграла пазіцыя выбаршчыкаў — ветэранаў вайны, у большасці з якіх, дзякуючы настойлівай, мэтанакіраванай прапагандзе, члены БНФ асацыіраваліся з нямецкімі фашыстамі.**

**Цікава: як паставяцца ветэраны (а яны ж складаюць значную частку электарата А. Лукашэнкі) да яго выказванняў пра вылюдка Гітлера?**

**Адным словам, слава, што спадарожнічае першаму прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, пачынае нечым нагадваць Герастратаву славу...**

**Міхась ЗАМСКІ**

# Забойства

Сяргей ДАВІДОВІЧ

Нічога вечнага не бывае... Які б доўгі ні быў чэрвеньскі дзень, а вечар надыдзе. Як бы ні ўпрыгожвалася вясной і летам наваколле, а да восені адцвітуць красачкі ў полі, а потым зжаўцее лісце і з цхім сумам, пакінуўшы родныя галінкі, ляжа на астылую зямлю. Як бы доўга ні цягнулася жыццё чалавека, а сысці ў магілу мусіць кожны...

Нічога вечнага не бывае...

Шарык таксама некалі быў малады і задзірысты. Калі нехта чужы збіраўся зайсці ў хату — Шарык уздымаў такі вэрхал, так рашуча кідаўся наперарэз кожнаму чалавеку, ледзь са скуры не выскокваў — ланцуг трашчаў. Ноччу гаспадары спалі спакойна — такі вартаўнік надзейнейшы за любы замок.

Але і Шарык быў не вечны — надышлі старасць, глухата, бяссілле. "З'еліся" зубы, нейкі туман засціў вочы, поўсць сыпалася, як з дзіравага меха сечка.

І хоць шкадаваў гаспадар сабаку, а трэба заводзіць новага — маладога, пільнага. Ды не карміць жа двух — дзе ж набрацца ў вёсцы тых харчоў, калі нават парасяці не ведаеш што даць, каб нейкая скварчына завялася потым у кубелку?

Узяў гаспадар вяроўку, закруціў вузельчык на Шарыкавай шыі, ускінуў на плячо ружжо — і пайшлі яны ў лес...

Шарык адчуваў штосьці нядобрае, але за сваё доўгае сабачае жыццё прывык даваряць і слухацца гаспадара, таму цяпер паслухмяна і сумна клыпаў за ім. Прамінуўшы густы ельнік, прыпыніліся на палянцы, дзе чалавек прывязаў сабаку да сасны, адышоўся, рэзка зняў з пляча ружжо і, баючыся глядзець у вочы сабаку, выстраліў.

Спалоханы лес адгукнуўся трывожным рэхам. Чалавек бачыў, як нейкая сіла падкінула Шарыка ад зямлі і зноў кінула на яе, бездапаможнага і нерухомага.

Не адвязваючы вяроўку, гаспадар рашуча пакрочыў ад гэтага жудаснага месца, выціраючы памакрэлыя вочы...

Я наўмысна не называю вёску і прозвішча чалавека, узяўшага на сваю душу цяжкі грэх. Я вельмі рады, што ў гэтай трагедыі ёсць працяг, які закрануў сэрца кожнага, хто хоць краем вуха пачуў пра згаданае здарэнне.

... Мінула два тыдні. У чалавека быў ужо другі сабака — малады і дзёрзкі, услужлівы і пільны. Чалавек стараўся не думаць, не ўспамінаць пра забітага былога сябра, і жыццё зноў набыло клапатлівы, працоўны рытм...

Але аднойчы вечарам, калі гаспадар стомлена сеў на ганак і з асалодай закурыў, гледзячы сабе пад ногі, ён усёй істотай адчуў на сабе нечы погляд. Чалавек узняў галаву. Перад ім стаяў Шарык — схуднелы і змучаны, з выбітым вокам і перабітай пярэдняй лапай, якая крыва зраслася. З шыі звісала ўся ў запечанай крыві вяроўка. Шарык хістаўся і даверліва глядзеў адным вокам у вочы гаспадару. Цяжка паранены, Шарык выжыў, залізаў раны, перагрыз вяроўку і аддаў апошнія сілы, каб вярнуцца да таго, каго лічыў сваім адзіным сябрам.



BELARUSIAN CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA
(БЕЛАРУСКІ КАНГРЭСАВЫ КАМІТЭТ АМЭРЫКІ)
724 WEST TANTALLON DRIVE, FORT WASHINGTON, MARYLAND 20744
PHONE: (301) - 292-2610
FAX: (301) - 292-8140
ELEVENTH BELARUSIAN CONGRESS OF AMERICA

R. Zavistovich President
V. Cierpicki Vice-President
C. Mierlak Vice-President
M. Bachar Vice-President
I. Rahalewicz-Dutko Vice President, Cultural Affairs
M. Sienko Secretary
L. Visotsky Treasurer

MEMBERS:
M. Kalenik
N. Mancywoda
G. Naumczyk
V. Pielesa
K. Worth
C. Najdziuk
Mrs. L. Brylewski
R. Cupryk

Дарагія Суродзічы!

Надыйшоў наш **Вялікі Сакавік** — 78-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — нашае нацыянальнае сьвята, якое мы заўсёды ўрачыста адзначаем.

Апошнімі часамі паўстала вялікая пагроза ня толькі беларускай незалежнасьці, але нават існаваньню беларусаў, як нацыі. Аб'яднаўшыся тут на эміграцыі, мы павінны разам з сваімі братамі на Бацькаўшчыне прыкласьці ўсю сваю энергію і творчыя сілы, каб не дапусьціць страты беларускае дзяржаўнасьці.

Няхай **Вялікі Сакавік** вядзе нас да здабыцьця волі нашаму народу і поўнае незалежнасьці нашай любай Беларусі! Няхай сьвеціцца запаленая іскрынка свабоды на нашай Бацькаўшчыне!

Няхай жыве вольная і дэмакратычная Беларусь!

Міхась Сенька
Сакратар

Расьціслаў Завістовіч
Старшыня

# "Дарог пройдзена нямала", але аснаўныя бойкі наперадзе

За два з лішкам тыдні з дня адкрыцця новай сесіі Вярхоўнага Савета "дарог пройдзена" нямала. Адным з апошніх рашэнняў новага парламента стала зацвярджэнне пераліку пастаянных парламенцкіх камісій і падкамісій, выбары іх старшынь і "роскід" дэпутатаў па "напрамках дзейнасці".

Трэба аддаць належнае прадэманстраванай раней узгодненасці ў вырашэнні кадравых пытанняў. Аднак на кіруючыя пасады, як мне здаецца, у шэрагу выпадкаў вылучаны не аўтарытэты, не самыя "мацёрыя" прафесіяналы, а фігуры "дагаворныя", прымальныя для большасці фракцый. Так, меркавалася, што на пасадзе старшыні камісіі па бюджэту, падатках, банках і фінансах альтэрнатывы Станіславу Багданкевічу няма. На жаль, кіраўнікі фракцый палічылі за лепшае зацвердзіць на гэтым "полі дзейнасці" прадстаўніка сацыял-дэмакратычнага саюза — Уладзіміра Бажарымава. "Профі" Багданкевіч, мяркуючы па ўсім, больш за ўсіх не задавальняў самае шматлікае аб'яднанне Вярхоўнага Савета — фракцыю "Згода". Пры гэтым мелася на ўвазе і тое, што ў крэсле намесніка Г.Карпенка — гэта занадта для фракцыі "Гражданское действие", якая налічвае ўсяго семнаццаць дэпутатаў. Дарэчы, гэта фракцыя змагла правесці ў старшыні камісій толькі аднаго члена партыі — Васіля Шлындзікава, які ўзначаліць камісію па эканамічнай рэформе.

Так, да гэтага часу Вярхоўны Савет быў заклапочаны толькі арганізацыяй работы самога парламента, таму вышэйшаму заканадаўчаму органу было не да дыскусій з прэзідэнтам: і па Канстытуцыйнаму суду, і па "кадравых пытаннях". Вярхоўны Савет — напярэдадні рэальнай заканатворчай працы, якая вызначыць сапраўдны рэйтынг цяперашняга парламента. Ці здольны ён прымаць якасныя і разам з тым аператыўныя рашэнні? Як адаб'ецца прынцып узгаднення інтарэсаў паміж фракцыямі на прыняцці ключавых законаў, якія вызначаюць жыццё краіны на бягучы і наступныя гады?

Аднак, як бы мы ні разважалі ды меркавалі, а механізм прыняцця рашэнняў, рычагі якога зусім не ў Авальнай зале, ужо наладжаны: камісіі — фракцыі — пленарныя пасяджэнні — зацвярджэнне. Цяпер позна задавацца мэтай ствараць новы прынцып перадольвання "заканадаўчых бар'ераў". Тым не менш, калі ўлічыць, што пісаць законы — гэта не раздаваць партфелі, магчыма, што "фракцыйны прынцып" можа стаць тормазам на шляху падрыхтоўкі законапраектаў. Менавіта на гэтым узроўні могуць мець месца "прабуксоўкі", бо ўжо цяпер існуе нейкая супярэчнасць, нават процівагі: многія ключавыя камісіі ўзначальваюць прадстаўнікі прапрэзідэнцкай "Згоды", якія, не выключана, будуць лабіраваць прыняцце законаў, "зручных" для выканання прэзідэнтам. На ўзроўні кіраўнікоў фракцый (фракцыйнай кааліцыі з камуністаў, аграрыяў і АГП( такія праекты будуць атрымліваць адпор. Як ні круці, але спадары Калякін, Гіруць, тым больш Багданкевіч, — людзі прынцыповыя. Да таго ж, кожны — прафесіянал у сваёй справе. На мой погляд, "другі паверх" падрыхтоўкі законапраектаў утойвае яшчэ адзін механізм тармажэння: кожная фракцыя з'яўляецца носьбітам інтарэсаў зусім розных слаёў насельніцтва. Не выключана, што фракцыі, калі ўсе партфелі займелі сваіх гаспадароў, стануць клапаціцца пра свой "кавалак коўдры". Іначай кажучы, адаб'ецца розны менталітэт, узровень падрыхтоўкі, палітычнай культуры.

З другога боку, пры вырашэнні любога пытання, што ўжо казаць — дзяржаўнага значэння, аднадушнасці ў поглядах не бывае. Узгодненае галасаванне па кадрах таксама з'явілася плёнам вельмі цяжкай закулісная працы па пошуку кампрамісаў. Чым шырэйшы спектр меркаванняў, тым больш інтарэсаў адлюструе той ці іншы законапраект.

Дай Божа, каб механізм узгаднення інтарэсаў не разладзіўся на радасць іншым структурам улады, якім не церпіцца тут жа яе "нацыяналізаваць".

**Кастусь АНАНІЧ.**

## Зянон ПАЗЬНЯК:

"ЗВЯЗДА"

# «ХТО ЗМАГАЕЦЦА, ТОЙ ПЕРАМАГАЕ»



***Адной з вялікіх нечаканасцей мінулага года можна лічыць вынікі ўдзелу ў парламенцкіх выбарах Беларускага народнага фронту — як вядома, ніводны вылучэнец гэтай арганізацыі так і не стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета. Ці азначае гэта акалічнасць знікненне Народнага фронту з палітычнага гарызонта Беларусі? У якасці аднаго з варыянтаў адказу прапануецца гутарка нашага карэспандэнта са старшынёй БНФ Зянонам ПАЗЬНЯКОМ.***

**— ЗЯНОН СТАНІСЛАВАВІЧ, тое, што адбылося на парламенцкіх выбарах з БНФ — гэта выпадковасць ці заканамернасць?**

— Гэта заканамернасць, да якой мы былі падрыхтаваны. На паўторныя восеньскія выбары 1995 г. мы пайшлі пасля дыскусіі: ці ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі ва ўмовах беззаконнасці і разбэшчанай дэзінфармацыі з боку ўладаў у дачыненні да БНФ, ці, можа, ігнараваць заведама немагчымыя для нас выбары. Улічваючы пагрозу дыктатуры, якой запахла ў паветры, вырашылі ўдзельнічаць у выбарах і агітаваць насельніцтва, нават калі б выбары адбываліся пад кулямётамі.

У сітуацыі, якая склалася, неабходна было выбраць новы парламент, каб стварыць канстытуцыйную процівагу дыктатарскім памкненням выканаўчай улады. Калі б фронт не агітаваў і не ўдзельнічаў у выбарах, то значная частка фронтаўскага электарату не пайшла б галасаваць і выбары маглі б не адбыцца. Гэта, не сумняваюся, прывяло б нашае грамадства да цяжкіх наступстваў. Пакуль што фронт прадухіліў іх, коштам свайго паражэння, падставіўшы сябе ў гэтай сітуацыі пад заведамы прапагандысцкі ўдар. Антыбеларуская прапаганда і людзі, якія не разбіраюцца, хіхікаюць, маўляў, вось глядзіце, «прайграўшы», яны нават выбранне парламента ставяць сабе ў заслугу. Няма сэнсу рэагаваць на ёрніцтва. Намі было зроблена ўсё, каб адбыліся выбары, быў створаны парламент. Ведаем, што ад нас гэта таксама залежала.

Кожная з палітычных сіл і арганізацый, што ўдзельнічала ў выбарах, планавала сваю партыйную стратэгію. Народны фронт, аднак, планаваў яшчэ і агульную стратэгію выбараў, зыходзячы з дзяржаўніцкіх нацыянальных інтарэсаў. Адсюль і тактыка (зняцце сваіх кандыдатаў, дзяржаўніцкая агульнанацыянальная платформа, падтрымка саюзнікаў і г. д.). Гэтая тактыка дала пэўны плён. Аднак сам фронт быў поўнасцю блакіраваны. Улады пераўзышлі саміх сябе. Ніводнага прадстаўніка БНФ няма ў новым парламенце. Якая бліскучая магутная перамога сілы ўлады! Якое сакрушальнае паражэнне фронту! — скажаце вы. — Ці не так?

Аднак нешта мала радасці бачу я ў «моцнай улады». Нейкая збянтэжанасць. Ці не перагнулі вы, спадары, палку, ці не перайгралі саміх сябе? І як бы вынікі іхняй «сакрушальнай перамогі» не пайшлі на карысць фронту.

Дарэчы, мяне радуе, што ў фронце даволі разважліва аднесліся да вынікаў выбараў. Яны не сталі вялікай нечаканасцю. Няма паражэнцкіх настрояў, а ёсць ахвота добра працаваць.

**— І ўсё-такі: хто вінаваты? Прэзідэнт? «Цёмны» народ? А, магчыма, сам Народны фронт?**

— Выбары не тая з'ява, дзе шукаюць вінаватых. Мы цвяроза бачылі сітуацыю і ведалі, на што ішлі. (І пойдзем яшчэ не раз. Будаўніцтва незалежнай дзяржавы і нацыянальнае адраджэнне — гэта пастаянная праца на доўгія гады. Таму мы не шукаем вінаватых, а аналізуем свае дзеянні.

Пытанне «хто вінаваты» — адвечная пазіцыя савецкага чалавека, які валодае асаблівай псіхалогіяй. Ну, а калі і ў фронце пачнуць шукаць вінаватага, то знайсці яго працей простага. Як кажуць таварышы-камуністы: «во всем виноват Позняк».

**— Наколькі апраўдала сябе стаўка Народнага фронту на культурнае адраджэнне?**

— Мы не робім «ставак». Стаўкі робяцца дзеля дасягнення нейкай мэты. Культурна-нацыянальнае адраджэнне Беларусі ёсць сама мэта БНФ. Яе неабходна ажыццяўляць, нягледзячы ні на якія ўмовы і перашкоды. Адраджэнне ў шырокім сэнсе (а гэтак называецца наш рух) заключае ў сабе галоўныя каштоўнасці нацыі, якія забяспечваюць яе гістарычную будучыню, цывілізаванасць і паўнацэннае чалавечае існаванне. Тут і нацыянальная дзяржава, і суверэнітэт, і дзяржаўнасць беларускай мовы, і эканоміка, і адукацыя, і міжнародная палітыка, і прававое заканадаўчае ўладкаванне грамадства, правы і развіццё асобы. Адраджэнне — гэта палітыка будаўніцтва, палітыка стварэння.

Шмат чаго было тут дасягнута Народным фронтам, акрамя ўлады ў дзяржаве. Цяпер тое, пад што быў закладзены грунт, як і раней, разбураецца гэтай уладай, да якой мы, на шчасце, не маем ніякіх дачыненняў. А калі б і мелі, то толькі як апазіцыя гэтаму развалу і нацыянальнаму вынішчэнню.

**— Усе гады свайго існавання БНФ атаясамліваўся з нацыянальнай ідэяй. Але ў чым яна? Улічваючы падзеі мінулага года, ці мае яна права на існаванне на Беларусі?**

— Гісторыя — гэта час. Калі нейкі ўсталяваны грамадскі арганізм ці ўсталяваная грамадская сістэма не перажыла (не сфарміравала, не стварыла) нейкіх неабходных якасцей у адпаведным часе, то яна альбо вернецца да іх, каб стварыць паскораным шляхам, альбо загіне, не адбудзецца як з'ява. Вяртанне часам нагадвае сізіфаву працу, але іншага не дадзена.

Калі коратка, то нацыянальная ідэя — гэта кансалідацыя народа на аснове любові да сваёй зямлі, гісторыі і культуры, да саміх сябе і ўсведамленне ў гэтым агульнасці жыццёвых інтарэсаў. Чалавек, які ўсведамляе нацыянальную ідэю (нацыянальна свядомы), звязвае свой поспех і сваё шчасце з поспехам і шчасцем свайго народа. Нацыянальная ідэя здольна кансалідаваць усіх, незалежна ад палітычнай арыентацыі. Дарэчы, і камуністаў, і антыкамуністаў. Напрыклад, і Бразаўскас, і Ландсбергіс гавораць на адной мове. На Беларусі ж, аднак, камуністы служаць не нацыянальнай ідэі. Адсюль іх антыбеларускасць, варожасць да суверэнітэту і г. д.

Камуністы ва ўладзе ў еўрапейскіх краінах не ўяўляюць такой небяспекі для існавання дзяржавы і нацыі, як на Беларусі, дзе яны альбо іхняя наменклатура ўладу захавалі.

Павінен сказаць, што ў гэтым якраз і ёсць трагізм Беларусі. Наша грамадства раскалатае не ў адносінах да спосабу грамадскага ўладкавання нацыі (як у Польшчы, Літве, Эстоніі, ва ўсім свеце), а ў адносінах увогуле да нацыянальнага існавання. Адсюль дзікунскія, незразумелыя для цывілізаванага свету рэферэндумы, вар'яцкая дзяржаўная палітыка.

Сучасная Еўропа, яе шматдзяржаўнасць, яе дэмакратыя, сістэма эканамічных і гуманітарных каштоўнасцей гістарычна сфарміраваліся на аснове нацыянальнай ідэі як найбольш кансалідуючай, натуральнай і ўсім зразумелай. Большасць еўрапейскіх краін ужо засвойваюць іншыя каштоўнасці, заснаваныя на нацыянальнай ідэі. Беларусь жа ў поўнай меры не вырашыла яшчэ вызначаль-

(Далей глядз. на бачыне 10-ай)



# Што можа прывесці Беларусь да агульнанацыянальнай катастрофы?

"Народная Воля"

**Павел ЗНАВЕЦ, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання.**

Палітычная і эканамічная сітуацыя на Беларусі зараз надзвычай складаная. Беларусь перажывае вельмі востры крызіс і эканамічнага, і палітычнага кшталту. Гэта крызіс парламентарызму. Вытокі яго ляжаць у дзейнасці Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Можна па-рознаму ацэньваць яго работу, але, на мой погляд, нельга не адзначыць дзве самыя вялікія памылкі, якія парадзілі цяперашняе становішча. Першая палітычная памылка — гэта дачаснае ўвядзенне пасады прэзідэнта з надзвычайнымі паўнамоцтвамі, другая — прызначэнне рэферэндуму па пытаннях, якія ніколі і нідзе не выносяцца на рэферэндумы. Гэтыя дзве палітычныя памылкі могуць прывесці Беларусь да агульнанацыянальнай катастрофы. І вось чаму.

Беларусь унікальная па свайму сацыяльна-культурнаму стану дзяржава. І не толькі ў Еўропе, але і ў свеце. Больш за 2/3 насельніцтва складаюць беларусы, але большасць з іх пакуль не ўсведамляе сваю прыналежнасць да беларускага народа, беларускай нацыі. Яны за гады савецкай улады і дэнацыяналізацыі ў значнай ступені "саветызаваліся", сталі "савецкімі людзьмі", "савецкім народам". Яны не задумваюцца над тым, чаму падчас прыгнёту і ўціску лепшыя сыны беларускага народа апантана змагаюцца перш за ўсё за культуру, за родную беларускую мову і, урэшце, за дзяржаўнасць. Гэта неабходна для захавання беларускай нацыі як этнасу, для захавання і далейшага развіцця самабытнейшай беларускай культуры, у аснове якой, у сваю чаргу, ляжыць адна з самых мяккіх і мілагучных славянскіх моў — беларуская мова. А не задумваюцца яны не толькі таму, што здэнацыяналізаваліся, а і таму, што проста не хапае часу аб гэтым думаць і разважаць — трэба ўвесь час думаць аб тым, дзе і як зарабіць на "хлеб надзённы".

Другая частка насельніцтва Беларусі (гэта дзесьці каля 1/4) ужо пачувае сябе беларусамі, так бы мовіць, па духу, па ўнутранаму стану душы. Для іх родным домам стала Беларусь, а не былы Савецкі Саюз, а каштоўнасці беларускай культуры, нацыянальныя гістарычныя сімвалы Беларусі запалі ў сэрца і душу. Прычым гэтую частку народа Беларусі ў значнай ступені прадстаўляе моладзь, а за ёй, як вядома, будучыня.

Такім чынам, тое, што беларускае грамадства падзелена на дзве няроўныя часткі, было відавочным. Крытэрыем такога падзелу з'яўляецца ўзровень самасвядомасці. У значнай часткі насельніцтва гэты ўзровень самасвядомасці, нацыянальны дух яшчэ "не вырас да ўзроўню самазахавання і самаўзнаўлення", як адзначыў у сваім інтэрв'ю аўтарытэтнейшы палітолаг, дзяржаўны і палітычны дзеяч Збігнеў Бжэзінскі. Для таго каб нацыянальны дух на Беларусі пасапраўднаму вырас да ўзроўню самазахавання, патрэбны час, прынамсі, некалькі гадоў актыўнай дзяржаўнай палітыкі і ідэалогіі нацыянальнага адраджэння. І вось у гэтай сітуацыі ўвядзенне пасады прэзідэнта было вельмі небяспечнае па той простай прычыне, што на яе мог трапіць чалавек, далёкі ад каштоўнасцей нацыянальнай культуры і мовы, чалавек, які будзе іграць на "каўбасных" пачуццях саветызаванай часткі беларускага грамадства. І было відавочна, што ў гэтай часткі грамадства (а яна складае большасць) такі чалавек будзе карыстацца падтрымкай. Па сутнасці, так яно і сталася, і малаверагодна, што падзеі маглі б разгортвацца па іншаму сцэнарыю.

Палітычная сітуацыя з увядзеннем прэзідэнцтва на Беларусі паступова пачала пагаршацца. Мэтанакіравана прэзідэнт вёў лінію па дыскрэдытацыі парламента і, як вынік, самой ідэі парламентарызму. Дастаткова ўспомніць яго выразы, кінутыя ў бок парламента накшталт "богадельни", "сборища пьяниц" і г.д. На ўсенароднае асуджэнне ён вынес як быццам занадта вялікія і неабгрунтаваныя сацыяльныя гарантыі дзейнасці дэпутата парламента. Кампанія па дыскрэдытацыі парламента падагравалася сродкамі масавай інфармацыі, якія кантралююцца прэзідэнтам. Зараз пад відам змагання з прывілеямі робіцца спроба абмежаваць, скасаваць тыя сацыяльныя гарантыі, якія даў грамадзянам Вярхоўны Савет. Гаворка ідзе менавіта пра сацыяльныя гарантыі, інакш кажучы, пра гарантыі выжывання пэўнай катэгорыі грамадзян у цяперашні няпросты час. Пры гэтым трэба ўсведамляць, што толькі заканадаўчая ўлада зацікаўлена ў такіх гарантыях. Менавіта Вярхоўны Савет прымае законы, якія неабходна выконваць. Іншая справа, што гэтыя законы павінны ўлічваць магчымасці дзяржавы ў галіне сацыяльнай абароны насельніцтва. У вельмі тонкім і няпростым пытанні адносна сацыяльных гарантый грамадзян трэба шукаць найбольш аптымальныя, збалансаваныя падыходы, якія будуць у найбольшай ступені ўлічваць інтарэсы ўсіх слаёў насельніцтва. У сваю чаргу на ўзроўні масавай свядомасці ў простага чалавека, дзякуючы намаганням прэзідэнта, дэпутат Вярхоўнага Савета пачаў атаясамлівацца з вобразам хапугі і нават злачынца. Ужо не толькі простыя абывацелі зневажаюць дэпутата, але і прадстаўнікі ўлады, у прыватнасці міліцыя. Так, напрыклад, на Дзень незалежнасці 27 ліпеня мяне міліцэйскі кардон не прапусціў на плошчу Незалежнасці, нягледзячы на прад'яўленае пасведчанне. У той жа час некаторых прахожых прапускалі (мусіць, таму, што яны былі проста прахожыя і гаварылі па-руску, а не па-беларуску з ахоўнікамі правапарадку). Што ж тады казаць пра законнасць, калі парушаюцца элементарныя, канстытуцыйныя правы нават дэпутата парламента, не кажучы пра іншых грамадзян. Больш таго, з падачы прэзідэнта на абывацельскім узроўні пачала зневажацца беларуская мова. Людзей, якія на ёй размаўляюць, і так пакуль што не багата, а калі іх за гэта пачынаюць яшчэ і зневажаць, то ў роспачы хочацца спытаць: да чаго ж, людцы, мы ідзём?

Тут варта сказаць некалькі слоў наконт рэферэндуму. Тое, што ён антыканстытуцыйны, незаконны, што ён быў праведзены з грубымі парушэннямі і г.д., — гэта асобная тэма для разважанняў і аналізу. А пакуль што адзначу толькі галоўнае — у выніку правядзення гэтай ганебнай акцыі былі закрануты тыя "струны духу беларускага народа", якія кранаць было нельга, якія б ніколі не крануў ніводзін дальнабачны правіцель, палітык. Калі беларускі народ не асіміліюецца, выжыве, калі ў яго ў поўнай меры адродзіцца пачуццё годнасці, гонару за сваю культуру і мову, за сваю гісторыю і дзяржаву, — вось тады ён пракляне ініцыятараў гэтага ганебнага акта з рэферэндумам на чале з цяперашнім прэзідэнтам. А тое, што беларускі народ выжыве, сведчыць і гісторыя, і мільёны галасоў супраць прэзідэнцкага рэферэндуму. А калі ўлічыць, што падрастае маладое пакаленне, нашы дзеці і ўнукі, якія будуць ведаць гісторыю Беларусі без скажэнняў і фальсіфікацый, то становіцца зразумелым, што цяперашняму прэзідэнту ніколі не дачакацца ад будучых пакаленняў "спасибо" за яго цяперашнюю дзейнасць. Наадварот, давядзецца несці адказнасць за многія, мякка кажучы, авантурныя і неабачлівыя дзеянні.

Лічу, што ў цяперашняй сітуацыі новаабранаму парламенту неабходна будзе на першых пасяджэннях прыняць рашэнні аб нелігітымнасці рэферэндуму і ануляванні яго вынікаў, а таксама вызначыцца наконт прэзідэнта: ці скасаваць гэтую пасаду, ці захаваць яе, абмежаваўшы паўнамоцтвы прэзідэнта да прадстаўнічых функцый. Трэцяга не дадзена, інакш парламент стане чыста бутафорскім утварэннем і ў любы момант можа быць разагнаны, а сведчаннем далейшых працэсаў у гэтым накірунку можа быць усталяванне на Беларусі аўтарытарнай дыктатуры і, што таксама верагодна, страта дзяржаўнасці. А дзяржаўнасць у цяперашняй сітуацыі — найдаражэйшы здабытак для беларускага народа, які не ўсе сёння ўсведамляюць, але які будзе пасапраўднаму ацэнены нашымі нашчадкамі. А мы жывём не толькі дзеля сябе, але і дзеля іх, нашых нашчадкаў.

Спадзяюся, што мае разважанні будуць асэнсаваны дэпутатамі парламента 13-га склікання, што яны, незалежна ад партыйнай прыналежнасці, веравызнанняў і перакананняў, ужо зараз адчуваюць сябе дзяржаўнымі людзьмі, адчуваюць тую велізарную адказнасць за лёс Бацькаўшчыны, якая на іх ускладзена. Нам не трэба зараз супрацьстаяння прэзідэнта і парламента (а яно непазбежнае і вельмі небяспечнае, асабліва падчас карэнных рэформаў, якія ўсё роўна пачнуцца), нам не трэба мільярдных выдаткаў на замену нацыянальнай гістарычнай сімволікі, якая ўсё роўна будзе дзяржаўнай, нам, урэшце, не трэба супрацьстаяння ў грамадстве, якое будзе паглыбляцца, калі захаваць цяперашні стан рэчаў. Таму, на мой погляд, адзінае перспектыўнае выйсце з цяперашняга палітычнага тупіка — гэта аднаўленне парламенцкай рэспублікі. Нельга тармазіць ход гісторыі, бо любое тармажэнне прыводзіць потым да паскарэння, а чарговае паскарэнне можа прывесці да сацыяльнага катаклізму.

І апошняе. Беларусь перажывае зараз не толькі перыяд усебаковага крызісу, але і перыяд, так бы мовіць, ачмурэння. Менавіта ў такія перыяды ў палітыцы, як правіла, з'яўляюцца асобы кшталту вядомага літаратурнага персанажа Шарыкава. Але як толькі грамадства пачынае асэнсоўваць тое, што з ім адбываецца, рознага тыпу "шарыкавы" перастаюць у такім грамадстве ўсур'ёз успрымацца і сыходзяць з палітычнага Алімпу. Мяркую, што перыяд ачмурэння на Беларусі будзе непрацяглым і разнастайныя "шарыкавы" не будуць мець сур'ёзнага ўплыву як на ход грамадска-палітычных падзей на Беларусі, так і на ход развіцця гістарычнага працэсу.

## *ДАР САКАВІКА — 1996 г.*

Кожнага году, у месяцы сакавіку, Фонд Рады БНР праводзіць сярод сваіх суродзічаў на эміграцыі, збор дабраахвотных ахвяраў на "Дар Сакавіка". Пасьля развалу камуністычнай імпэрыі Вярхоўны Савет БССР 27 ліпеня 1990 году выносіць дэклярацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. Пачынаецца зрух да нацыянальнага абуджэньня. Выглядала, што ідэя, за якую эміграцыйная Рада БНР дзесяткі гадоў змагалася, набліжаецца і, што гэта ідэя закрасуецца ў сувэрэннай і незалежнай Беларусі...

10 ліпеня 1994 года беларускі народ выбірае свайго першага прэзыдэнта, які акружыў сябе дарадчыкамі — маскоўскімі камуністамі, якія ня маючы ў сабе нічога беларускага пасьлядоўна праводзяць антыбеларускую дзейнасьць...

Па натуральных прычынах наша эміграцыя з кожным годам слабее, але супольна, пры добрым жаданьні і ахвярнасьці, мы можам дапамагчы нашым патрыётам на Бацькаўшчыне. І ў далейшым мы павінны інфармаваць вольны сьвет аб антыбеларускай дзейнасьці ўраду Беларусі. У Беларусі патрабуюць матэрыяльнай дапамогі нацыянальнага напрамку прэса, а таксама беларускія нацыянальныя арганізацыі і палітычныя партыі.

Галоўнае, як зазначыў у сваёй прамове старшыня Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны на зьезьдзе сяброў таварыства паэт Ніл Гілевіч: "не ўпадаць у роспач і не складаць рукі ў бязьдзейнасьці..." І мы, у меру нашых магчымасьцяў, можам аказаць дапамогу нацыянальнаму адраджэньню сваёй Бацькаўшчыны.

Просьба да суродзічаў перасылаць свае ахвяры на ніжэй паданы адрас скарбніка, або перадаць мясцоваму скарбніку Фонду БНР на падпісную лісту. Мясцовыя скарбнікі ёсьць толькі ў больших нашых асяродках: Нью Ёрку, Нью Джэрзі, Кліўленд і Чыкага ды ў іншых краінах, як Англія, Аўстралія і Бэльгія.

Жыве Беларусь!

Скарбнік Рады БНР — *Віталь Кажан*

за Старшыню Рады БНР — *Др. Барыс Рагуля*

Адрас Скарбніка:

Vitali Kazan
29 Pennington-Lawr. Rd.
Pennington, NJ. 08534
USA.



Перад нарадамі: зьлева на права, Вітаўт Кіпель, Васіль Быкаў, Ганна Сурмач, Зора Кіпель і Радзім Гарэцкі.

## Беларускі Тыдзень у Празе.

Ад 12-га да 16-га лютага сёлета ў Празе (Чэхія) зь ініцыятывы Таварыства Бацькаўшчына і Таварыства Чэска-Беларускай Дружбы адбылася праграма "Беларусы ў Празе". У тыдні прайшла ў Нацыянальнай Славянскай Бібліятэцы канфэрэнцыя прысьвечаная Францішку Скарыну (аб дасягненьнях Скарыніяны на Захадзе гаварыў Др. Вітаўт Кіпель), выстаўка "Беларусы ў Празе" ды канцэрт ведамага беларускага калектыву "Капэла" пад кіраўніцтвам знанага сьпевака Віктара Скарабагатава, і колькі меншых канфэрэнцыяў, дзе абмяркоўваліся чэска-беларускія дачыненьні. У часе тыдня адбылася таксама выстаўка беларускіх пякарскіх вырабаў беларускае народнае ўмельніцы В. Уласік (са Стаўпеччыны).

У праграме тыдня ўдзельнікі канфэрэнцыі наведалі магільнік на Градчанах, дзе пахаваныя выдатныя беларускія дзячы, стваральнікі БНР — Пётра Крэчэўскі, Васіль Захарка, Тамаш Грыб, а таксама Міхась Суміцкі, ды, магіла пакуль што не расшуканая, Міколы Вяршыніна.

Дэлегацыя з Бацькаўшчыны налічвала некалькі дзесяткаў асоб, а ад беларускае эміграцыі ў працы тыдня бралі ўдзел Зора і Вітаўт Кіпелі.

Зянон ПАЗЬНЯК:

# «ХТО ЗМАГАЕЦЦА, ТОЙ ПЕРАМАГАЕ»

(Заканчэньне з бачыны 8-ай)

ных паняццяў: нацыянальная дзяржава, дзяржаўная беларуская мова і нават беларуская нацыянальная свядомасьць, без якой немагчымая нацыянальная дзяржава. Бо развіцьцё іх было прыпынена ў 1918 годзе на самай ранняй стадыі ўтварэння нацыянальнай дзяржавы (БНР). Потым настала акупацыя, падзел народа, квазідзяржаўнасць, прымусовая асіміляцыя і генацыд.

У канцы 80-х гадоў беларускі Сізіф зноў прачнуўся і пацягнуў на гару свой камень. Хто пазбавіць яго ад злога рока? Хто?

Мы ўзяліся за гэтую справу сем гадоў назад, бо зразумелі — пакуль існуе «чудище обло, огромно, стозевно», да таго часу будзе дзейнічаць рок. У гэтым (у барацьбе з варожай імперыяй) сутнасць усёй нашай драматычнай нацыянальнай гісторыі, якая, аднак, сведчыць: хто змагаецца, той урэшце і перамагае.

**— Вы шмат гаварылі пра еўрапеізм Беларусі. Што гэта такое?**

— Беларусь — краіна еўрапейскай культуры і еўрапейскай гісторыі, якая выпрацавала нацыянальную сістэму еўрапейскіх культурных каштоўнасцей у дзяржаве і праве, у рэлігіі і мастацтве, у палітыцы і вайсковай справе, у штодзённым жыцці. Сістэма гэтых каштоўнасцей спрацэравана на чалавечую асобу, на індывідуальнасць, якой аддаецца прыярытэт перад дзяржавай. Асоба паважаецца, дзяржава шануецца. Такі тып дачыненняў замацаваны і ў псіхалогіі людзей. У гэтым (у дачыненнях да асобы і дзяржавы) наша галоўнае адрозненне ад імперскага і аўтарытарнага Усходу.

Адраджэнне нашых нацыянальных еўрапейскіх каштоўнасцей і інтэграцыя, вяртанне ў Еўропу ёсць найбольш натуральны і аптымальны шлях нашага нацыянальнага развіцця.

**— Чым вы, як лідэр адной з буйнейшых партый, ганарыцеся больш за ўсё? І чаго, магчыма, саромеецеся?**

— Ганаруся, калі, згодна з беларускай вайсковай традыцыяй, перамогі ў палітыцы над татальна пераўзыходзячай магутнасцю дасягаюцца вельмі малымі сіламі. Напрыклад, 24—25 жніўня 1991 г. Прыпыненне дзейнасці КПСС—КПБ, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі і інш. І ўвогуле, ганаруся працай і дзейнасцю апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання. Саромеюся люмпенскіх праяў у нашым грамадстве і ў Народным фронце.

**— Кожная няўдача —падстава, каб задумацца і зрабіць высновы. Якія яны?**

— Калі маюцца на ўвазе выбары, то высновы можна звесці да дзвюх галоўных: патрэбна канкрэтная мэтанакіраваная праца з насельніцтвам і сродкі. Далей — магчымасць распаўсюджваць інфармацыю (газеты, радыё і г. д.), удасканальванне партыйна-рухаўскіх структур і, што вельмі істотна, — прыняцце нармальнага выбарчага закона. Існуючы закон — гэта нейкі параліч. Ён не спрыяе правядзенню выбараў.

**— Зараз БНФ зноў ператварыўся ў пазапарламенцкую апазіцыю. Як разумець такі статус?**

— Паколькі ніводны прадстаўнік БНФ не быў прапушчаны ў беларускі парламент, фронту там няма. А значыць, мы не можам непасрэдна ўплываць на дзейнасць парламента. Зразумела, што не можам несці і ніякай адказнасці за яго палітыку. Сфера палітычнай эфектыўнасці ў нас звузілася. Аднак нашы крытычна-кансалідуючыя, апазіцыйныя магчымасці ў грамадстве пашырыліся і спрасціліся. Мы зможам цяпер больш засяродзіцца якраз на крытычных і кансалідуючых аспектах нашай праграмы. У гэтых умовах падтрымка фронту будзе ўзрастаць. Павялічыцца яго масавасць.

**— Што б вы маглі адказаць тым, хто сцвярджае, што эпоха Народнага фронту незваротна прайшла?**

— Сур'ёзныя людзі такога не кажуць. А што датычыць «тых»... «Тыя» гавораць гэтак ужо сем гадоў. Пагартайце старыя газеты, дзе зафіксаваны супярэчлівыя пісанні ўсіх нашых «флюгераў». Але караван ідзе. Так што пажадаю «тым» з такім жа поспехам адпрацаваць і наступную сямігодку.

**Пытанні задаваў Сяргей ГРЫБ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

---

*Генадзь БУРАЎКІН:*

"Народная Воля"

# "Мы можам быць побач з Чэхіяй і Галандыяй і пачуваць сябе дастойна"

**У мінулым годзе сусветная супольнасць адзначыла 50-годдзе ўтварэння Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Подпісы беларускіх дыпламатаў — сярод заснавальнікаў гэтай самай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі. Але толькі некалькі гадоў назад Беларусь набыла ў ААН поўную самастойнасць. Пастаянным прадстаўніком Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з 1990 да 1994 года, якраз у той час, калі Беларусь набыла незалежнасць, быў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. На яго вачах мянялася стаўленне да нашай краіны...**

— Калі ў 1990 годзе я прыехаў у Нью-Йорк, Беларусь была часткай СССР і "рабочы" статус наш у ААН быў абсалютна іначшы, чым цяпер. Я думаю, што прызнанне заслуг не столькі БССР, колькі нашага народа сталася прычынай таго, што Беларусь разам з Украінай і Савецкім Саюзам выступіла заснавальнікам гэтай міжнароднай супольнасці. Але калі браць дыпламатычную практыку, дык нашу палітыку вызначаў Савецкі Саюз, фарміравалася яна ў Маскве. І вось адбыліся ўсім вядомыя змены, і мы сталі самастойнай, як заявілі на ўвесь свет, дзяржавай.

**— І як гэта ўспрынялі там вашы калегі з іншых дзяржаў?**

— Відавочна памяняліся адносіны да нас. Перыяд суверэнізацыі, з якога эстрадныя ды палітычныя хахмачы чамусьці вельмі любяць здзекавацца, маўляў, "парад суверэнітэтаў", там, у ААН, быў прыняты з разуменнем і прыязнасцю. Калі народ хоча жыць самастойна, гэта ўспрымаецца ў цывілізаваным свеце нармальна.

Наша рашэнне пра суверэнітэт было ўспрынята як належнае, і статус наш змяніўся да лепшага. Я гэта адразу адчуў па адносінах да нас. Трэба аддаць належнае прадстаўнікам Савецкага Саюза, якія сталі прадстаўнікамі Расіі, — яны таксама пачалі з намі ўсур'ёз лічыцца. Іншая справа, ці былі мы гатовыя да гэтага? Ці былі да гэтага гатовыя ў Мінску? Мяркую — не зусім.

**— Беларускім дыпламатам бракавала прафесіяналізму?**

— Якраз прафесіяналізму дыпламатам, якія працавалі ў беларускім прадстаўніцтве, на мой погляд, хапала.

А вось у нашай сталіцы палітычныя дзеячы ніяк не жадалі адчуць сябе кіраўнікамі самастойнай краіны, ім усё хацелася на некага азірацца. І не толькі таму, што ў Масквы больш вопыт, а і таму, што яны не прывыклі самастойна мысліць, баяліся браць на сябе адказнасць. Куды выгадней было на кагосьці ківаць.

**— А можа, былі аб'ектыўныя фактары? Скажам, Расія не была зацікаўлена ў самастойнасці Беларусі?**

— Перакананы, што Расія пайшла б на тое, каб мы былі больш самастойнымі, калі б мы гэтага хацелі. Як і цяпер, многае ўпіралася ў нежаданне беларускага кіраўніцтва браць усю ўладу ў свае рукі, як гэта робіцца ў самастойнай дзяржаве.

**— Апалагеты тэорыі беларуска-расійскай канфедэрацыі ў якасці аднаго з аргументаў сцвярджаюць, што Беларусь занадта ўжо малая краіна, каб уплываць на сусветнае супольніцтва ды прэтэндаваць на нейкую самастойную ролю...**

— Што значыць "уплываць на сусветнае супольніцтва"? У якасці члена ААН мы, як і іншыя, можам на яго ўплываць. Але ці ж гэта — самамэта? Трэба разумець, што па ўздзеянню на сусветнае супольніцтва мы наўрад ці станем калі побач са Злучанымі Штатамі Амерыкі, Расіяй, Кітаем, Францыяй, Вялікабрытаніяй. Ну і што? Мы — нармальная еўрапейская краіна, якая можа разлічваць на месца побач з Чэхіяй, Галандыяй, Фінляндыяй, Партугаліяй — чым дрэнная кампанія? Іншая справа, што нас пусцілі на гэты ўзровень авансам. Нам трэба захаваць сваё месца сярод гэтых краін свету, даказаць, што мы нездарма на яго прэтэндуем не толькі тэрыторыяй, эканамічнымі прыкметамі, але і паказчыкамі сваёй дэмакратыі, свайго інтэлекту, сваёй культуры. Калі мы замацуемся ў гэтым шэрагу, то будзем пачуваць сябе ў свеце дастойна.

Нам удалося заявіць пра сябе як пра вартую ўвагі і павагі дзяржаву. Нашы інтарэсы ўлічваліся, калі рыхтаваліся многія глабальныя рашэнні ААН. На жаль, яшчэ не ўдалося поўна і шырока расказаць свету пра асаблівасці нашай краіны, асаблівасці яе эканомікі і яе дэмакратыі.

**— Вядома, што вашыя падыходы, скажам так, не зусім супадалі з пазіцыяй каманды Кебіча, што, вядома, і з'явілася рэальнай прычынай вашага сыходу з дыпламатычнай службы. Прайшло не больш як два гады, але змены адбыліся істотныя. Як вы ацэньваеце тыя кадравыя перастаноўкі, што адбываюцца цяпер у Міністэрстве замежных спраў?**

— У такі гістарычны перыяд, які перажывае наша краіна, я б не спяшаўся з рэзкімі і адназначнымі вывадамі. Ламаецца старая сістэма. Пры гэтым нярэдка, на жаль, адкідаецца і добрае, а пакідаецца дрэннае. Можа быць, гэта непазбежна.

Тое, што ў Міністэрства замежных спраў апошнім часам прыйшлі маладыя людзі, прафесіяналы, — мяне вельмі радуе. Я многіх з іх ведаю, працаваў з імі. Я вельмі высокай думкі пра нашага пасла ў ЗША Сяргея Мартынава. Лічу добрымі дыпламатамі Пятра Бяляева, Міхаіла Хвастова, Андрэя Саннікава, Аляксандра Васільева, Сяргея Званко.

У мяне цудоўнае стаўленне да міністра Уладзіміра Сянько. Я не кажу пра яго надзвычай карысны вопыт, агульную прафесійную падрыхтоўку — думаю, што нават сам характар яго спрыяе ў няпростых міжнародных сітуацыях вытрымліваць сучасны ўзровень. Ён спакойны, добразычлівы, і тыя выбрыкі, якія робяць часам некаторыя нашы кіруючыя асобы, умее неяк замартызаваць, неяк растлумачыць свету.

**— Вы маеце на ўвазе гісторыю з паветраным шарам?**

— Не толькі. Думаю, што вельмі цяжка будзе паважанаму міністру неяк растлумачыць сваім калегам — нават у неафіцыйнай абстаноўцы — вояж палкоўніка Замяталіна да Садама Хусейна.

**— Наша становішча на міжнароднай арэне магло быць лепшым...**

— Так, мы не спраўдзілі ўсіх намераў, пра якія заявілі ў свой час. Мы абвясцілі нейтральнасць, а цяпер разважаем пра нейкія ваенныя блокі. Мы развітваемся з практыкай "халоднай вайны", а нашы вайскоўцы збілі мірны паветраны шар. Але, перакананы, сусветная супольнасць усё яшчэ жадае бачыць у нас партнёра і спадзяецца на адзінства нашых слоў і спраў. Прадказальнасць палітыкі ў практыцы ААН — гэта адна з вельмі важных рэчаў, урэшце, з яе і пачынаецца аўтарытэт дзяржавы ў свеце.

**— Гэты аўтарытэт залежыць і ад таго, наколькі краіна выконвае Дэкларацыю аб правах чалавека, прынятую ААН. Цяперашнія нашы ўлады выглядаюць не зусім прыстойна. Але ж існуе і механізм пэўнага ўплыву ААН на выкананне ўрадамі абавязкаў перад сваімі грамадзянамі.**

— ААН мае права на ацэнку, на экспертызу, на рэкамендацыю, імкнецца пазбягаць умяшання ў справы дзяржавы. Жорсткія метады ААН прымяняе ў выключных выпадках, калі ўсе мірныя спосабы вычарпаныя. Будзем спадзявацца, што ў нас да гэтага не дойдзе. Але нават калі ў дакладах ААН будзе ацэньвацца дзеянні нашых улад як далёкія да дэмакратыі — гэта будзе ўздзейнічаць на наш міжнародны імідж, а значыць, на выдзяленне крэдытаў, на паводзіны патэнцыяльных інвестараў.

**— Становішча са свабодай слова вы можаце ацаніць не толькі як дыпламат, але і як журналіст са шматгадовай практыкай, і як былы старшыня Дзяржтэлерадыё.**

— Дзеянні ўлад у дачыненні да прэсы — не проста ігнараванне як сродкаў масавай інфармацыі. Думаю, што гэта — відавочная праява абыякавых адносін да грамадскай думкі. Калі б грамадская думка мела важнае значэнне для нашых кіраўнікоў, яны б не асмельваліся так абыходзіцца з прэсай. Яны б не зрабілі з тэлебачання і радыё рупар толькі сваіх рашэнняў, сваіх меркаванняў. А калі яны не лічацца з думкай сваіх грамадзян, якія іх утрымліваюць сваімі падаткамі, на ўласны капыл трактуюць Канстытуцыю, калі прыніжаюць Вярхоўны Савет, — куды ўжо далей?

Калі кіраўнік дзяржавы паважае народ, які яго абраў, дзяржаву, на чале якой стаіць, ён павінен думаць над кожным сваім словам. Бо ягонае слова слухае ўвесь свет. Для мяне неверагодна — як гэта можна гаварыць, ці патрэбны нам суверэнітэт, ці не замінае ён нашаму дабрабыту?

За тыя чатыры гады, што я быў у Нью-Йорку, я бачыў, як настойліва, дзесяцігоддзямі краіны дабіваліся прыёму ў ААН і якая гэта была для іх радасць, калі іх, часам маленькіх і малавядомых, прымалі ў ААН. Гэта была радасць ад таго, што іх прызналі суверэннымі і самастойнымі.

**— Затое нашы кіраўнікі, можна сказаць, скардзяцца, што такая на іх бяда звалілася — незалежнасць!**

— Я ніяк не зразумею, няўжо тыя, хто гатовы "здаць" нашу незалежнасць, не ведаюць, што калі адбудзецца перамена ў дзяржаўным статусе, Беларусь страціць права быць членам ААН, іншых міжнародных ар-

ганізацый, бо яна не будзе самастойнай, то ад нас з'едуць пасольствы, якіх сёння няма, напрыклад, ні ў Валагодскай вобласці, ні ў Краснаярскім краі? Такія людзі не прывыклі даражыць годнасцю не толькі сваёю, але і годнасцю народа.

**— Відавочна, што маштаб асобы кіраўніка дзяржавы адбіваецца і на яе міжнародным прэстыжы?**

— У дыпламатычнай практыцы фігура лідэра мае велізарнае значэнне.

Хацелася б, каб наша краіна атрымала такіх палітычных дзеячаў, якія прыкметныя ў свеце. Ну, напрыклад, не такая ўжо вялікая сярод іншых Чэхія, але ў яе ёсць Вацлаў Гавел. А Гавел — фігура аўтарытэтная. І мы гэта адчулі, калі спаборнічалі з нашымі сябрамі з Чэхіі пры фарміраванні складу непастаянных членаў Савета Бяспекі. Тое, што ў Чэхіі быў Гавел, адыграла, можа быць, рашаючую ролю ў тым, што мы пры галасаванні ўступілі.

Будзем верыць, што лепшыя часы для Беларусі наперадзе. І мне вельмі хацелася б, каб калі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый узгадвалі пра цывілізаванасць і дэмакратыю, то заўсёды б казалі: "Вось як у Беларусі..."

■

*Цяпер Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Генадзь Бураўкін вярнуўся да творчай дзейнасці, працуе ў часопісе "Вожык". Не пакідае і паэзію. Да дзесяткаў папулярных песень, напісаных на вершы Бураўкіна, хутка дададуцца новыя. Словам, літаратура, журналістыка ды беларуская эстрада выйгралі. І гэта добра.*

*Падумалася толькі, што дзяржавы з куды багацейшым дыпламатычным кадравым патэнцыялам, чым наша, не дазваляюць сабе грэбаваць людзьмі з такім міжнародным вопытам, які мае Генадзь Бураўкін.*

**Галіна НАВУМЧЫК, "Павет".**

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ НЕ ВЫКЛЮЧАЕ МАГЧЫМАСЦЬ ВЯРТАННЯ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ Ў БЕЛАРУСЬ У АДКАЗ НА РАСШЫРЭННЕ НАТО

**МАСКВА. 18 студзеня. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не выключае магчымасць перагляду абавязацельстваў рэспублікі аб вывадзе ядзернай зброі з яе тэрыторыі.**

Пацвердзіўшы ў чацвер на сустрэчы з вучонымі ў Расійскай акадэміі навук у Маскве пазіцыю Беларусі, якая выступае катэгарычна супраць расшырэння НАТО на Усход», А. Лукашэнка дабавіў: «Як бы нам зноў не давялося размяшчаць на тэрыторыі Беларусі выведзеную раней ядзерную зброю».

Паводле яго слоў, непрыняцце Прэзідэнтам Беларусі ідэі расшырэння НАТО прывяло да таго, што А. Лукашэнка «стаў чужым не толькі для Захаду, але і для пэўных палітычных сіл у Расіі».

«Мы гатовы абараняць свае інтарэсы на заходніх межах, абараняючы пры гэтым і інтарэсы Расіі на заходнім напрамку», — падкрэсліў кіраўнік беларускай дзяржавы.

«На заходняй мяжы ў Расіі ёсць дружалюбная беларуская армія, а на Усходзе, я думаю, вы самі сябе абароніце», — сказаў А. Лукашэнка.

**Інтэрфакс.**

# І адродзіцца Беларусь?... Як? Калі? І кім?

"ЗВЯЗДА"



**НАПРЫКАНЦЫ мінулага года ў беларускай прэсе з'явіліся публікацыі, у якіх аўтары выказваюць думку, што адраджэнне Беларусі пачнецца з вёскі. Не ўступаючы ў палеміку, хацелася б паразважаць на гэтую тэму.**

* * *

Беларускае адраджэнне сёння трапіла ў паласу нестабільнасці і непрадказальнасці. Наконт гэтай праблемы ў грамадстве таксама няма еднасці. Хтосьці да адраджэння ставіцца раўнадушна, іншыя — нават варожа. Ёсць і тыя, хто думае ажывіць нацыю праз царкву альбо яшчэ спадзяецца на вёску...

Вёска ж ніколі не была рухавіком цывілізацыі, ад біблейскіх часоў гэтую місію выконваў горад. Менавіта ў ім канцэнтраваліся перадавыя людзі свайго часу. Мысліцелі, філосафы, паэты знаходзілі ў горадзе прыстанак, мелі высокіх абаронцаў сярод тагачаснай знаці. Ды і сучасны горад у плане прагрэсу выконвае аналагічную ролю. У ім знаходзяцца музеі, культурныя цэнтры, тут захоўваюцца набыткі многіх пакаленняў.

Несумненна, калі б зніклі гарады — знікла б і цывілізацыя. І наогул, не мною сказана, што развіццё нашай цывілізацыі магчыма толькі пры даволі высокай шчыльнасці насельніцтва на зямным шары. Дастаткова знізіць колькасць жыхароў Зямлі да пэўнай рысы — і наступіць заняпад. Народы, якія не ведалі гарадоў, намнога адсталі ў сваім развіцці. Гэта добра бачна на прыкладзе народаў Поўначы ці тых жа качэўнікаў.

Не будзем ідэалізаваць горад у цэлым, бо разам са станоўчым горад з'яўляецца расаднікам бандытызму, наркаманіі і г. д. Гэта адна з адмоўных рыс гарадскога жыцця, але з гэтым прыходзіцца мірыцца.

Вёска ж дзякуючы кансерватызму была захавальніцай сваёй маралі, народных традыцый, звычаяў ды фальклору... але вёска не магла прапанаваць нічога новага, служыць прагрэсу, яна «цягнулася» за горадам, брала прыклад з яго.

* * *

Бяда беларускага народа ў тым, што ён вясковая нацыя. А калі ўлічыць, што гэтую нацыю яшчэ раз'ядняла і рэлігія, то няма чаго здзіўляцца, чаму перад намі паўстала сёння столькі праблем, якіх у суседніх народаў няма.

На пачатку гэтага стагоддзя ў гарадах і мястэчках Беларусі беларусы амаль не жылі. Гарадское насельніцтва складалася з яўрэяў і палякаў на Захадзе і яўрэяў і рускіх — на Усходзе. Дарэчы, у іншых мястэчках яўрэяў пражывала да 80 працэнтаў. Адарванасць вёскі ад гарадскога асяроддзя ізалявала беларусаў у апошнія стагоддзі і ад сусветнай культуры. У значнай меры гэтаму спрыяў і заняпад Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы. Набыткі беларусаў у мінулыя часы ў сферы «высокай» культуры: паэзіі, музыцы, філасофіі неўпрыкмет запісалі на свой «рахунак» палякі, рускія, літоўцы... А беларусы, «адгарадзіўшыся» ад усяго свету балотамі і лясамі, «варыліся» ў сваім фальклоры ды мастацтве, якое заўсёды было прыкладным, ужытковым.

* * *

Калі ў мінулым вёска ўсё ж была захавальніцай беларускасці, народных традыцый, то пры наступіўшай саветызацыі і калектывізацыі спрадвечны ўклад жыцця сялян пачаў надзвычай хутка разбурацца. Ратуючыся ад гвалту і ўціску, вяскоўцы кінуліся ў горад і, імкнучыся хутчэй «зліцца» з ім, ужо ненавідзелі ўсё вясковае, а значыць, і беларускае, найперш мову. А ўспомнім абразлівае «калхознік», слова, якое сведчыла, што чалавек знаходзіцца на самай нізкай сацыяльнай ступені.

Гарады пачалі хутка разрастацца за кошт наплыву людзей з вёсак. Учарашнія сяляне станавіліся гараджанамі, і хаця яны стараліся «адхрысціцца» ад вёскі, па сваёй псіхалогіі яны заставаліся сялянамі, запалоханымі, раз'яднанымі аднааасобнікамі з усім наборам вясковых комплексаў.

Улады даволі лоўка выкарысталі духоўны стан беларусаў і пачалі актыўна праводзіць палітыку русіфікацыі, прыкрыўшы яе інтэрнацыяналізмам. Між іншым, і палякі на адпаведным адрэзку часу праводзілі адносна беларусаў палітыку паланізацыі. Праўда, там былі іншыя метады і падыход.

* * *

Беларуская інтэлігенцыя, галоўным чынам творчая, усё яшчэ не можа пазбавіцца сялянскай філасофіі, душой яна ўсё яшчэ там, у вёсцы. Гэтак было трыццаць гадоў назад, так яно і сёння. Многія нашы творцы бачаць у вёсцы Беларусь. Прысвячаюць ёй вершы, пішуць карціны з дзядкамі ды бабкамі, настальгічна шукаюць учарашні дзень. А ручнік наогул стаў нейкім сімвалам беларускасці. Нейкае свята ці ўрачыстасць — над сцэнай вывешваюць ручнікі. Гэтыя ж ручнікі, ды яшчэ з калаўротам і лапцямі, упрыгожваюць інтэр'еры беларускіх класаў.

Жыццё хутка ідзе наперад, а нам тэлевізіёншчыкі прапаноўваюць глядзець прыдуманыя імі вячоркі. Фальшывыя ад пачатку да канца. Як і тыя жнеі, якія ў вышываным святочным убранні жнуць жыта. Нейкі фэст з сярпамі, а не цяжкая праца, зрэб'е і пот.

Нам навязваецца экзатычнае ўяўленне пра Беларусь, якое не мае ніякага дачынення ні да ўчарашняга дня, ні да сённяшняга.

Безумоўна, у нас ёсць значныя гістарычныя і культурныя набыткі, але ўся бяда ў тым, што яны ўсё яшчэ не запатрабаваны грамадствам, і найперш на дзяржаўным узроўні.

А чагосьці чакаць ад вёскі і спадзявацца, што яна можа ўключыцца ў працэс нацыянальнага адраджэння, не прыходзіцца. Вёска вымірае. Старыя людзі даношваюць старую вопратку і дажываюць свой век. Іх жыццё так затузала, што ім у прынцыпе ўсё роўна, якая Беларусь сёння і ці будзе яна заўтра. Хвалюе іх штодзённае. Не затрымалі б пенсію, не забралі б ільготы, ды прывезлі б у краму хлеб.

Ды і што тут казаць, калі, напрыклад, у вёсках Баранавіцкага раёна за мінулы год памерла 975 чалавек, а нарадзілася 427. І гэта тыповая карціна для Беларусі адносна вясковага насельніцтва.

Змена ладу на вёсцы — балючы і працяглы працэс, які закране не адно пакаленне. Але няўжо тыя фермеры ці новыя землеўладальнікі з сельскай наменклатуры будуць думаць пра адраджэнне Беларусі?

Дык дзе тут выйсце?

Стагоддзямі Беларусь драмала ў сваёй самабытнасці. Ізаляванасць, векавы ўклад жыцця, кансерватызм хаця і стрымлівалі развіццё нацыі, тым не меней спрыялі захаванню беларускага этнасу.

Сёння час спрасаваны да мінімуму. Яго няма для разважанняў. Я прыходжу да высновы, што адрадзіць Беларусь можна толькі на дзяржаўным узроўні. Іншага шляху проста няма. Без пэўнай дзяржаўнай палітыкі намаганні асобных сацыяльных груп і энтузіястаў так і застануцца нерэалізаванымі ў нацыянальным маштабе.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## У БРЭСЦЕ СТВОРАНА ПАЛЕСКАЕ НАВУКОВАЕ ТАВАРЫСТВА

**43 лінгвісты, этнографы, сацыёлагі, гісторыкі, краязнаўцы аб'ядналіся, каб паспрыяць захаванню самабытнай палескай культуры, а таксама развіццю асноў грамадзянскай супольнасці ў шматкультурным рэгіёне.**

Неабходна, прынамсі, задакументаваць тое, што імклівa знікае пад уплывам урбанізацыі і разбурэння традыцыйнага ладу жыцця. Самыя буйныя філіі Палескага навукова-краязнаўчага таварыства «Загароддзе» ўтварыліся ў Мінску, Брэсце, Віцебску, шумлівай Маскве і ціхім Драгічыне.

Штуршок з'яўленню новай арганізацыі дало пераўтварэнне Брэсцкага педінстытута ва універсітэт. Навукоўцы і творчая моладзь самі знаходзяць грошы для сваёй дзейнасці. Сапраўдная ідэя можа рэалізоўвацца, не штучна створаная арганізацыя павінна існаваць самастойна, не зазіраючы ў дзяржаўную кішэню.

**Андрэй ДЫНЬКО.**

## "Зялёныя" лісты-пісьмы...

Як падае руская газэта "Вечерний Минск", у Менску ўжо ад некаторага часу праглядаюць лісты, якія прыходзяць у Беларусь з-за мяжы, асабліва з Заходніх краін. Чаму праглядаюць? Ды проста шукаюць валюту (беларускія ўлады лічаць гэта кантрабандаю)... Знойдзеныя даляры, маркі і інш. валюту канфіскуюць, — што ў дзяржаўную касу, а што ў кішэні... Таму высылаць грошы ў канвертах на Беларусь, гэта тое самае, што выкідаць іх на вуліцу.

ж.

# Выміранне палешукоў набірае небяспечны размах

У Іванаўскім раёне, што налічвае крыху больш за 50 тысяч чалавек, на працягу мінулага года памерла на 203 чалавекі больш, чым нарадзілася. Як сведчаць пяць папярэдніх гадоў, гэты пакзчык прагрэсіруе са страшэннай хуткасцю. Крывыя нараджальнасці і смяротнасці літаральна ўцякаюць адна ад адной у процілеглыя бакі.

Каменціруючы гэтую з'яву, загадчыца Іванаўскага ЗАГСа А.Е.Шумак паведаміла, што калі раней раён выглядаў у параўнанні з усёй вобласцю больш-менш прыстойна, дык цяпер, бадай, не выходзіць за рамкі агульнаабласных паказчыкаў.

Яна ж прывяла некаторыя іншыя сімптаматычныя для ўсёй рэспублікі лічбы: на 415 шлюбаў, зарэгістраваных у раёне, прыходзіцца 108 (або крыху больш за чвэрць) разводаў. Для параўнання: у 1990 годзе шлюбаў было 535, а разводаў 63.

Сярод многіх прычын, якія садзейнічалі павелічэнню ў мінулым годзе колькасці разводаў, Алена Емяльянаўна назвала і такую: раней, калі скасаванне шлюбу ў ЗАГСе каштавала ў сярэднім каля 200 рублёў, якія тады былі вялікімі грашамі, многія, разышоўшыся, недаафармлялі развод. А цяпер, калі за названую суму можна купіць хіба што запалкі, заспяшаліся ў касу, завяршаючы такім чынам разводны працэс.

На жаль, прыведзенае тлумачэнне не настолькі істотнае, каб можна было ўздыхнуць з палёгкай.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ, уласны карэспандэнт "Народнай волі" па Брэсцкай вобласці.**

**Мы змагаемся за беларускую БЕЛАРУСЬ!!!**

# ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПЛАНУЕ ПРАВЕСЦІ 30 САКАВІКА КАНФЕРЭНЦЫЮ ПА ПЫТАННЯХ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Сакратарыят Таварыства беларускай мовы вызначыў дату правядзення навуковай канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты» — 30 сакавіка гэтага года. Выраашана запрасіць да ўдзелу ў арганізацыі гэтага форуму як мага больш шырокае кола грамадскіх, палітычных арганізацый і дзяржаўных устаноў.**

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН сябар сакратарыята ТБМ Вінцук Вячорка, сярод мэтаў канферэнцыі — тэарэтычнае асэнсаванне і напрацоўка больш поўнага фактычнага матэрыялу для правільнай ацэнкі становішча, у якім апынулася беларуская мова ў выніку працяглай дыскрымінацыі. В.Вячорка спадзяецца, што гэты форум непазбежна прыцягне ўвагу грамадства да праблемы беларускай мовы, прымусіць паглядзець на яе паслярэферэндумаўскі стан новымі вачыма, асэнсаваць, што вынікі рэферэндуму прадвызначылі маніпуляцыя масавай свядомасцю і сфарміраваныя на працягу вякоў той акупацыйнай дыскрымінацыі стэрэатыпы. Па словах В.Вячоркі, на канферэнцыі, магчыма, будуць прааналізаваны законнасць і падставы рэферэндуму з юрыдычнага пункту гледжання. Акрамя таго, сам факт правядзення канферэнцыі на тэму дыскрымінацыі беларускай мовы ў беларускай жа дзяржаве не можа не прыцягнуць увагі і сусветнай грамадскасці.

**Сяргей ЛІТВІН, БелаПАН.**

ЗВЯЗДА

*УДЗЯЧНАСЦЬ*

## За росквіт Беларусі молімся на роднай мове

Паважаная рэдакцыя, я выпісвала вашу газету нават у тыя часы, калі трэба было выбіраць «Праўду». «Звязда» адпавядае маім думкам і настрою. А яшчэ, акрамя вашай газеты, пачуць роднае слова можна толькі ў касцёле. І хоць я з тых вернікаў, якія «калі трывога, дык да Бога», аднак, выпадкова зайшоўшы на службу ў касцёл Святых Сымона і Алены, была ўражана чысцейшай беларускай мовай у час служэння.

Цяпер сама бываю там кожны выхадны і вяду ўнучку, каб яна практыкавалася ў беларускай мове і слухала вельмі разумных людзей — пробашча касцёла Уладзіслава Завальнюка, айца Анатоля, для якіх, пэўна, сэнс жыцця ў тым, каб маліць Бога за росквіт роднай Беларусі. А мы, хто прысутнічае ў храме, таксама молімся на беларускай мове. І добра атрымліваецца.

У вашай газеце кожны месяц апавядаецца пра праваслаўных святых. Можа, ёсць магчымасць расказваць таксама пра каталіцкіх святых і пра святы? Шмат людзей былі б удзячныя вам за гэта.

**Ірына БЯЛЕЦКАЯ.**

*г. Мінск.*

## Застаючыся грамадзянінам Савецкага Саюза, можна таксама бараніць беларускую мову



Член фракцыі камуністаў у парламенце Валерый Шчукін выступіў з запытам да прэм'ер-міністра М. Чыгіра адносна цяжкага, складанага становішча беларускай мовы.

Па-рознаму можна глядзець на гэты факт. Сёй-той паспрабуе іранізаваць: маўляў, і камуністы нацягваюць на сябе нацыянальную кашулю. Але не трэба забывацца, што ў свой час Закон аб мовах распрацоўваўся ў кабінетах ЦК КПБ.

Як, дарэчы, нельга не звярнуць увагу на тую акалічнасць, што заступіўся за беларускую мову чалавек, доўгія гады адарваны ад беларускай старонкі. Валерый Шчукін — былы афіцэр Ваенна-Марскога флоту. Пра ўласнае ж стаўленне да роднай мовы сваёй маці ў адным з газетных інтэрв'ю ў адказ на пытанне: «Калі ў парламенце будзе галасавацца якое-небудзь рашэнне, скіраванае на ўмацаванне пазіцый беларускай мовы, ці выкажацеся вы «за»?» заявіў наступнае: «Той, хто хоча вучыцца па-беларуску, павінен мець такую магчымасць, нягледзячы ні на якія фінансавыя выдаткі».

Застаючыся на пазіцыях вяртання ў прастору Савецкага Саюза (а Валерый Шчукін не забывае нагадаць, што ён з'яўляецца грамадзянінам СССР), ён не маўчыць, калі справа датычыць зберажэння і захавання роднай мовы народа.

Быць грамадзянінам няіснуючай дзяржавы можна хіба толькі на Беларусі... Нам падсказваюць, што на Беларусі ёсць такія чудакі, якія лічаць сябе грамадзянамі Кіеўскай Русі і Рымскае Імпэрыі... Вольнаму воля...

# Ukraina odrzuciła ideę integracji z Rosją i Białorusią

Kijów (IAR) — Ukraina odrzuciła ideę odtworzenia ścisłych związków z Rosją i Białorusią, zgłoszoną wczoraj w Moskwie przez prezydenta Białorusi Aleksandra Łukaszenkę.

Nie jesteśmy gotowi iść za przykładem dwu państw, których prezydenci zapowiedzieli, że będą zmierzać do utworzenia unii Rosji i Białorusi — powiedziała rzeczniczka ukraińskiego Ministerstwa Spraw Zagranicznych.

Prezydent Białorusi Aleksander Łukaszenko wezwał wczoraj do zwołania wspólnej sesji parlamentów Rosji, Białorusi i Ukrainy, które, pod przewodem prezydentów tych trzech państw miałyby dyskutować o sposobach integracji krajów, które w 1991 roku zawarły porozumienie oznaczające ostateczną likwidację Związku Radzieckiego.

Po spotkaniu z Łukaszenką także prezydent Rosji Borys Jelcyn opowiedział się za pełną unią między Rosją a Białorusią. Wyraził też nadzieję, że cel ten zostanie osiągnięty za jego prezydentury.



# Дзякуй за ідэю...

**Днямі споўнілася чатыры гады з моманту зацвярджэння Вярхоўным Саветам Беларусі эталонных выяў Дзяржаўнага герба і прыняцця Палажэння аб Дзяржаўным сцягу. Статус афіцыйных сімвалаў Беларускай Дзяржавы быў нададзены "Пагоні" і бел-чырвона-беламу сцягу яшчэ 19 верасня 1991 года, пасля чаго групе мастакоў і навукоўцаў было даручана распрацаваць графічны, каляровы і аб'ёмны эталоны герба, удакладніць прапорцыі сцяга, распрацаваць наверша для яго. Вынікі працы былі прадстаўлены дэпутатам на сесіі Вярхоўнага Савета і 10—11 снежня зацверджаны. У першы дзень — герб, у другі — Палажэнне аб сцягу. Прынятыя тады эталоны леглі ў аснову выяваў "Пагоні" на фасадзе Дома ўрада і будынка, у якім зараз месціцца прэзідэнцкая адміністрацыя. На іх аснове былі зроблены армейскія і міліцэйскія кукарды і шэўроны. Тая "Пагоня" ўпрыгожыла новы пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.**

**Адмяніць рашэнне Вярхоўнага Савета можа толькі Вярхоўны Савет. Так што, што б там ні казалі, але "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг — нашы сімвалы не толькі ў гістарычным, але і ў юрыдычным сэнсе.**

**Не так даўно сп. Лукашэнка, маючы намер навечна замацаваць "перамогу" на "рэферэндуме", абвясціў сваім указам дзень 14 мая днём Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга. Можа, для каго дзень "рэферэндуму" і свята, а для мяне — дык гэта дзень нацыянальнай ганьбы і нішто іншае. Але свята такое — Дзень сцяга і герба — можа, і не лішняе ў нашым календары. Толькі адзначаць яго трэба 19 верасня, шануючы "Пагоню" і бел-чырвона-белы сцяг, шануючы нашу тысячагадовую гісторыю.**

**Так што, дзякуй за ідэю, сп.прэзідэнт, але яна патрабуе карэкціроўкі. Давядзе ідэю да ладу народ і час.**

**П. В.**

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую за газэту "Беларускі Дайджэст". Залучаю ахвяру на газэту. Вам-жа жадаю здароўя ды сілы а таксама вытрымаласьці ў такой цяжкай працы. Грамадзкая праца ня толькі цяжкая, але вельмі часта і няўдзячная.

З глыбокай пашанай, Ю.Н.

*Так, грамадзкая праца вельмі няўдзячная, асабліва сярод беларусаў... Але-ж нехта павінен яе рабіць. Дзякуем за ўсё.*

Паважаны Мікола!

Дзякую за газэту і залучаю ахвяру на выдавецтва. Заўважыў, што газэта пачала зьмяшчаць здымкі заслужаных людзей у Замежжы... На маю думку гэта добра, але... выглядае так, што "Беларускі Дайджэст" уздымае на сваіх бачынах жывых людзей, а "Беларус" пяе людзям "вечную памяць..." на яго старонках... Сапраўды цікава, відаць, так і трэба... Дарэчы, хто пастанаўляе каго ўзьвялічваць на перадавіцы "Беларускага Дайджэсту"?..

З найлепшымі пажаданьнямі, К. Н.

*Твая заўвага пра "ўзьвялічваньні" і "адпяваньні" даволі трапная. У канцы канцоў так яно і ёсьць. Калі ходзіць аб тое, хто пастанаўляе адносна кандыдатаў на перадавіцу ў газэце, дык паведамляю, што звычайна людзі падсказваюць мне каго мець на ўвазе. Калі-ж такіх падказаў два, — справа ясная. Вось і ты прапануеш ведамую асобу... Дзякую за ўсё.*

Здароў Мікола!

Вялікі дзякуй за газэту, якая, ня гледзячы на ўсё, выходзіць так акуратна, для прыкладу некаторым нашым выдаўцом. Друкаваныя матэрыялы цікавыя і на часе актуальныя... Залучаю ахвяру. Дай Божа Табе здароўя і вытрываласьці, бо гэтага патрабуеш і заслугоўваеш.

Твой, В. К.

*Дзякую за добрыя і патрэбныя словы. Жадаю таксама ўсяго найлепшага.*

Паважыны Мікола!

Прабач, што доўга не адзываўся... Захварэў, прычапілася нейкая хадзячая хвароба і трымала мяне чатыры тыдні. Пасля гэтага пачалі дакучаць вочы, бо маю глюкому. Калі ехаць у дальшую дарогу тады, зразумела напружваючца вочы і прыходзіць боль, так нібы нехта насыпаў пяску...

Наагул шмат-хто з нашай эміграцыі страціў давер і літасьць да людзей на Беларусі... бо ня было на сьвеце народу, каб адмовіўся ад свае мовы, нацыянальнай эмблемы і сьцяга. Гэта ганьба тым, хто галасаваў супраць усяго беларускага.

З пашанай А. М.

*Так, так. Старасьць не радасьць. Усе мы ня тыя, як калісьці... Што тычыцца Беларусі, дык сапраўды сорамна за нацыю. Але трэба памятаць, што ня ўсе людзі галасавалі за прапанову спадара Лукашэнкі. Галасавала менш палавіны ўсяго народу... А так жадаем усяго найлепшага.*

Рэдактар М. Прускі!

Хачу гэтым падзяліцца сумнаю весткаю. На Каляднай ялінцы нейкім чынам маім унучкам не хапіла падарункаў. Была гэта непрыемная для мяне падзея, а мае ўнучкі гэтага зусім не разумелі і пачуліся пакрыўджанымі. Думаю, што на другі раз такое не паўторыцца...

З пашанаю да Вас, М. С.

*У жыцьці здараюцца розныя няўвязкі ды недагляды. Але пры добрай волі ўсё можна наладзіць. Дзякую за ахвяру.*

Паважаны Сп. Прускі!

Перасылаю Вам мінулагодні газэты з Беларусі і Польшчы. Можа Вы ў іх знойдзеце нешта цікавае для газэты "Беларускі Дайджэст". Жадаю Вам здароўя, посьпеху ў Вашай працы на карысьць Беларускага народу і Беларусі. **God Bless,** Я. К.

*Дзякую за шматлікія газэты. Можа нешта знойдзем цікавага, хоць большасьць з іх у нас ужо ёсьць. Нас больш цікавяць самыя новыя весткі. Яшчэ раз дзякуем за фатыгу.*

Паважаны Сп. Рэдактар!

Прашу надрукаваць у газэце верш аднае вашае чытачкі. Шкода, што нашыя газэты падобных вершаў не друкуюць, бо беларусы народ паэтычны...

*Верш друкуем... Часамі на гэта не хапае месца...*

Браты Беларусы!

Ня трэба цурацца
Роднай мовы свае!
Бо яна мілагучна
І прыгожа, як ўсе.
Трэба ведаць нам братцы,
Што няма лепшых моў...
Бо к сабе кожна мова
Выклікае любоў.
Нам ня трэба шукць
Моваў лепшых, чужых,
А заўжды памятаць,
Што, яднае нас ўсіх.
Трэба веды каваць
Пра мінуласьць сваю,
І на зьдзек не даваць
Гонар наш — Беларусь.
Нам казалі бацькі,
Што мы горды народ,
І казалі: Заўжды
Памятаць пра свой род!

1995 г. *Тамара А.*